


# Рэгіянальная газета. Rh.by


тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12+

12 кастрычніка 2018 года №41 (1224)

# Мама 10 дзяцей: «Я не разумею, як можна справіцца з адным дзіцем»

старонка 20

Фота з сямейнага архіва Вольгі ШЧУРСКАЙ.



## Маладзечна: задумалі зрабіць парк кахання

старонка 17

## Яго не прызналі ветэранам вайны

старонка 18

ISSN 1991–7155

9 771991 715006 41

Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/


## Адкрыюць мастацкую галерэю твораў Васіля Шаранговіча

МЯДЗЕЛ

11 кастрычніка а 15-й гадзіне ў Цэнтры культуры і вольнага часу ў курортным пасёлку Нарач па вуліцы Ленінскай, 23 урачыста адкрыюць мастацкую галерэю твораў народнага мастака Беларусі Васіля Шаранговіча, знакамітага айчыннага графіка, ураджэнца Мядзельшчыны.

Галерэю Васіля Шаранговіча, ганаровага грамадзяніна Мядзельскай раёна, стварылі па ініцыятыве і пры фінансавай падтрымцы Мінаблвыканкама і Мядзельскага раённага выканаўчага камітэта.

Васіль Шаранговіч – выдатны майстар станковай і кніжнай графікі з адметным творчым почыркам, адзін з самых вядомых і прызнаных беларускіх мастакоў.

Творы яго знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, у музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, музеях Янкі Купалы і Якуба Коласа, Міністэрстве культуры Расіі, зборах Беларускага саюза мастакоў і Саюза мастакоў Расіі, у прыватных калекцыях Італіі, ЗША, Германіі, Тайваня, інш. Цяпер атрымліваць асалоду ад знаёмства з творчасцю славутага земляка могуць і аматары мастацтва на яго малой радзіме.

Агульная плошча галерэі складае 210 квадратных метраў, у экспазіцыі прадстаўлена 130 работ майстра, сярод якіх ілюстрацыі да твораў класікаў беларускай і сусветнай літаратуры, станковыя работы, акварэлі і малюнкі, якія пранізвае шчымлівая любоў да роднай зямлі, аднавяскоўцаў.

Нарадзіўся мастак у 1939 годзе ў вёсцы Качаны. Скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (цяпер Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў).

Шмат гадоў узначальваў гэту ўстанову, музей сучаснага выяўленчага мастацтва.

**Паводле сайта Мінаблвыканкама.**

## Школы і садкі сталі лепшымі па азеляненні і стварэнні бяспечных умоў

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА
ВАЛОЖЫН

Усе школы, дзіцячыя садкі, цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі Мінскай вобласці сёлета спаборнічалі ў абласным конкурсе на лепшае добраўпарадкаванне і азеляненне сваіх тэрыторый. Журы адзначыла ўдзельнікаў з Вілейкі, Валожыншчыны і Маладзечна.

Маладзечанскую школу №14 адзначылі за арыгінальны падыход да азелянення. Тут у аснову канцэпцыі «Сад «чатыры сезоны» аўтары заклалі паняцці «ландшафтны дызайн», «навучальная ўстанова» і «сад чатырох сезонаў». Спыніліся на англійскай класіцы.

У намінацыі «Тэрыторыя бяспекі» вызначылася валожынская школа №2. Журы звяртала ўвагу на тое, ці ёсць ля школы бяспечныя гульнявыя пляцоўкі, зоны адпачынку, міні-цэнтры бяспекі жыццядзейнасці. У выніку перамаглі шэсць устаноў адукацыі рэгіёна.

У намінацыі «Найлепшае знешняе азеляненне і добраўпарадкаванне» першае месца занялі СШ №14 Маладзечна і Вілейскі цэнтр дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.

За найлепшае ўнутранае азеляненне і добраўпарадкаванне другое месца прысудзілі навучальнаму комплексу «дзіцячы сад-школа» ў Пяршаях на Валожыншчыне і дзіцячаму садку №11, што ў Вілейцы.

У намінацыі «Тэрыторыя бяспекі» другое месца заняла валожынская школа №2, а трэцяе месца – гімназія №2 Вілейкі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Прыміце ўдзел у стварэнні экалагічнага календара

ВІЛЕЙКА

Упраўленне адукацыі, спорту і турызму райвыканкама сумесна з таварыствам «Экапартнёрства» пры падтрымцы праекта «Патрэба ў эфектыўным кіраванні жыллёва-камунальнай гаспадаркай» прапануюць навучэнцам Вілейшчыны паўдзельнічаць у стварэнні календара на 2019 год.

Для гэтага трэба намаляваць малюнак на тэму правільнага абыходжання з адходамі. Да канца кастрычніка яго неабходна перадаць ва Упраўленне адукацыі па адрасе: **Вілейка, вуліца Вадап'янава, 24.**

Конкурс накіраваны на прыцягненне ўвагі школьнікаў да неабходнасці правільнага абыходжання з адходамі. Перавагу аддадуць тым працам, аўтары якіх закрануць праблемы стыхійных звалак, кампаставання зялёных адходаў, паасобнага збору смецця.

Найлепшымі 12 малюнкамі праілюструюць каляндар, які будзе бясплатна распаўсюджвацца на Вілейшчыне.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота Ігара ПАЛЬЫНСКАГА.

Праблемы Маладзечна абмяркоўваюць Аляксандр Капуцкі, Валянціна Сідоркіна і Таццяна Семашкевіч.

# Дрэнныя дарогі ці цёмна на вуліцах

## Як Антон Матолька вучыў маладзечанцаў пісаць петыцыі

**Грамадскі актывіст і блогер Антон Матолька і кіраўнік інтэрнэт-праекта «Зручны горад» Уладзімір Кавалкін прыязджалі ў Маладзечна. Удзельнікаў сустрэчы навучылі складаць петыцыі па алгарытмах.**

МАЛАДЗЕЧНА

На прыкладах разабралі, як прыдумваць кампанію па зборы подпісаў і прасоўваць яе.

Па словах **Антона Матолькі**, петыцыі добрыя публічнасцю. Калі дакумент збірае шмат подпісаў, значыць, праблема хвалюе не аднаго чалавека. Адказ чыноўнікаў могуць пабачыць усе. І калі не з першай, то з пятай спробы вашу праблему вырашаць.

Праект «Зручны горад» дапамагае людзям правільна звяртацца да дзяржаўных органаў.

Сэнс у тым, каб дадаць петыцыю на сайт і сабраць як мага больш электронных подпісаў. Пасля гэтага накіраваць яе ў пэўны дзяржаўны орган. І чакаць рашэння праблемы.

### Як напісаць петыцыю

Спачатку трэба структураваць праблему. Не спрабавацць у адзін абзац дадаць усё, што не задавальняе. Неабходна разумець прычынна-выніковую сувязь. На дарогах ямы – гэта праблема сістэмная. Нейкі набор праблем вядзе да яе. Падумайце, якіх.

Часам людзі падмяняюць праблему рашэннем. Праблема – адсутнасць чагосьці, ваша бяда. Уявіце, дарога разбітая. Праблема не ў гэтым. А вось тое, што падвеска ў вашай машыне падчас паездкі ламаецца, ужо бяда, якая тычыцца многіх кіроўцаў. Разабраліся, што праблема з падвескай, а не з дарогай? Цяпер маеце набор варыянтаў. Напрыклад, можаце набыць іншую машыну ці ездзіць па іншай дарозе.

Калі пішаце чыноўнікам, што хочаце дарогу, – гэта проста «хацелка». А зламаныя дыскі, пагнутая падвеска, траўматызм, ДТЗ зразумелыя ўсім. Іх і апісвайце ў петыцыі.

### Зрабіце з праблем патрабаванні

Намалюйце праблему ў выглядзе дрэва прычын праблем. Большыя галінкі – канкрэтная сітуацыя, якую хочаце вырашыць. Меншыя – падпраблемы, якія вядуць да ўзнікнення сітуацыі.

Разгледзім прыклад. Ёсць чыгуначная станцыя. Праз поле – аўтобусны прыпынак. Злева ад станцыі ёсць дарога, але яна толькі для аўто, тратуара няма. Каб дайсці ад станцыі да прыпынку, людзі вымушаныя ісці больш за сто метраў па полі. Дарогі праз яго няма.

Глабальная праблема – людзям няручна дабірацца па гразі ад цягніка да прыпынку. Да яе прывяла адсутнасць тратуара. З-за праблемы можна атрымаць траўму, папсаваць абутак. На чалавека могуць напасці дзікія жывёлы.

Другая праблема – людзі чакаюць аўтобус пад дажджом і ветрам. Бо прыпынак не крыты. З-за праблемы можна захварэць, папсаваць адзенне.

Атрымаўся набор праблем. Цяпер іх трэба перафармуляваць у патрабаванні. А потым скласці тэкст звароту.

Спачатку вызначыце мэту звароту. Напрыклад, павялічыць задаволенасць людзей, якія робяць перасадку з цягніка на аўтобус. Далей знайдзіце адрасата – дзяржарганізацыі, адказныя за прыпынак і дарогу.



Фота Ігара ПАЛЬЫНСКАГА.

Антон Матолька.

Сфармулюйце патрабаванні кшталту «просім зрабіць пешаходную дарогу ад станцыі да прыпынку, таму што (магчымыя захворванні, да прыкладу). Ці перанесці яе да станцыі. Просім зрабіць крыты прыпынак, таму што…».

### Складаем тэкст петыцыі

1. У пачатку тэкста петыцыі пазначце, на чыё становішча хочаце паўплываць. У нашай сітуацыі – «для пасажыраў цягніка, якім трэба дабірацца да прыпынку».

2. Потым указвеаце патрабаванні. «Неабходная зручная дарога для перамяшчэння ад чыгуначнай станцыі да прыпынку. Пры гэтым трэба забяспечыць камфортнае чаканне транспарту. Месца перасадкі павінна ўключаць пешаходную дарожку і крыты аўтобусны прыпынак».

3. Аргументуйце, навошта так рабіць. «Гэта дазволіць паменшыць траўматызм, знізіць захворванні з-за ўмоў надвор'я (дождж, снег, вецер), захаваць адзенне і абутак людзей».

4. Пакажыце, як праблема выглядае сёння і параўнайце з тым, што можа быць. «У адрозненне ад дарогі, якая цяпер праходзіць праз поле, і адсутнасці крытага прыпынку, заасфальтаваная дарога і дах над прыпынкам дазволяць пасажырам камфортна дабірацца да працы».

5. Далей звярніцеся да тых органаў, якія могуць дапамагчы. Да прыкладу, просім гарадскі аўтапарк зрабіць крыты прыпынак ці перанесці яго да чыгуначнай станцыі. А ДРБУ просім пракласці заасфальтаваную дарогу праз поле да аўтобуснага прыпынку.

У петыцыю можна дадаць факты, якія пацвярджаюць актуальнасць праблемы. Гэта могуць быць фотаздымкі, графікі, карты.

Ваша петыцыя гатовая. Цяпер яе можна адправіць на сайт Petitions.by, збіраць подпісы і чакаць рэакцыі дзяржорганаў.

**Таццяна КАСЬЯН.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ




Фраў Мурк паказвае, як гатаваць шніцаль.

# «А шніцаль мы адбіваем… патэльняй»

## Як сям'я з Германіі вучыла маладзечанцаў гатаваць

МАЛАДЗЕЧНА

**5 кастрычніка ў зале замежных моў маладзечанскай бібліятэкі пахла печанымі яблыкамі, смажаным мясам і спецыямі.**

У межах тыдняў Германіі ў Беларусі сям'я нямецкага дыпламата **Ганса Мурка** правяла тут кулінарны майстар-клас. Нешта са страў баварскай кухні вядучыя прынеслі з сабой, нешта гатавалі разам з удзельнікамі. Але трапіць на майстар-клас і далучыцца да прыгатавання баварскіх страў мог не кожны.

### Запрашалі толькі тых, хто ведае мову і цікавіцца нямецкай культурай

– Мы рэгістравалі толькі тых, хто пастаянна бярэ ў нас чытаць кнігі на нямецкай мове, удзельнічае ва ўсіх нашых праграмах, тых, хто добра ведае нямецкую мову і каму цікавая культура Германіі. Сёння тут вучні з дзясятай гімназіі, першай і пятай школ – устаноў, дзе вывучаюць нямецкую мову, – распавяла «Рэгіянальнай газеце» бібліятэкар залы замежнай літаратуры **Таццяна Летунова**.

На майстар-класе ўдзельнікі ў большасці размаўлялі паміж сабой па-нямецку. Таму мерапрыемства дало не толькі магчымасць навучыцца гатаваць, а яшчэ і падцягнуць веданне мовы.

### Мяса любяць і немцы, і беларусы

Па словах спадара Мурка, які жыве ў Беларусі некалькі год, нямецкая і беларуская кухні маюць шмат агульнага:

– І немцы, і беларусы любяць мяса. Толькі гатуюць іх з рознымі спецыямі. Яшчэ ў Германіі няма халаднікоў, якія беларусы так любяць летам. Стравы беларускай кухні мне падабаюцца не менш, чым нямецкія.

**Фраў Мурк** расказала, што гатаваць яна навучылася ў сваёй бабулі. Гатуе жанчына кожны дзень. А вось муж не асабліва дапамагае ёй.

Удзельнікі майстар-класа гатавалі торт на мінеральнай вадзе, кілбасны і бульбяны салаты, паштэты з бульбы і мяккага сыру, дэсерты, смажылі шніцаль на арэхавым алеі.

### Адкрыцці пра арэхавы алей і варэнне з перцам

**Фраў Мурк заўважыла, што арэхавы алей даўжэй трымае тэмпературу. Таму на ім зручна гатаваць. Яшчэ жанчына паказала, як немцы адбіваць шніцаль. А робяць яны гэта… патэльняй.**

Шчодрая нямецкая гаспадыня захапіла з сабой і варэнне. Удзельнікі павінны былі адгадаць, з чаго яно зроблена. Пасля некалькіх лыжак назвалі правільны варыянт – маліны і ваніль. Па словах фраў Мурк, у Германіі ў варэнне могуць дадаваць нават перац. І тады атрымліваецца соус да мяса.

### Юлія Дзямідовіч: «Хацела акунуцца ў атмасферу нямецкай кухні і пачуць мову»

Сярод удзельнікаў была вучаніца 10 класа школы №5, колішняя пераможца акцыі «Рэгіянальнай газеты» «Дзясятачка» **Юлія Дзямідовіч**. Дзяўчына расказала, чаму прыйшла на гэты майстар-клас:

– Летась мне пашчасціла сем месяцаў навучацца ў Германіі, у горадзе Гёцінгіне. Нямецкую мову ведаю нядрэнна, але калі на ёй не размаўляць, нешта забываецца. На гэты майстар-клас прыйшла, каб паразмаўляць па-нямецку, акунуцца ў атмасферу баварскай кухні. Бібліятэку наведваю часта. Бяру чытаць кнігі на нямецкай мове, удзельнічаю ў мерапрыемствах, якія тут праводзяць. Была пераможцай конкурсу «Лета з кнігай».

Юля ўжо вызначылася, што нямецкую абавязкова будзе здаваць на цэнтралізаваным тэставанні. Але не бачыць сябе перакладчыкам. Сваё далейшае жыццё, магчыма, звяжа з эканомікай.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

## Рэцэпты баварскіх страў ад сям'і Мурк

### Бульбяны паштэт для бутэрбродаў

Тры бульбіны адварыць, размяць відэльцам. 100 грамаў грэцкіх арэхаў злёгку абсмажыць на патэльні, здрабніць. Пятрушку дробна парэзаць. Усё змяшаць з 300 грамамі мяккага сыру.

### Мядова-гарчычны соус з кропам

Узяць тры чайныя лыжкі гарчыцы, па тры сталовыя лыжкі маянэзу, натуральнага ёгурту і вадкага мёду, пучок кропу. Усё пакласці ў міску, перамяшаць, дадаць солі, перцу, кары, крыху цукру і сок паловы лімона.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 4.10 | 11.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1334 | **2.1453** |
| Еўра | 2.4690 | **2.4623** |
| Злоты, 10 | 5.7440 | **5.7195** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2600 | **3.2417** |
| Грыўня, 100 | 7.5425 | **7.6632** |

| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 3.10 | 10.10 |
|---|---|---|
| Еўра | 2.4400/2.4750 | **2.4590/5.4790** |
| Долар ЗША | 2.1200/2.1420 | **2.1390/2.1570** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 3.10 | 10.10 |
|---|---|---|
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,87 | **18,87** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,98 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,20 | **4,60** |
| Селядзец, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 13,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,10 | **1,10** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,80 | **1,80** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,70 | **1,70** |
| Агуркі, 1 кг | 1,95 | **1,95** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,35 | **0,40** |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | **0,70** |
| Кабачок, 1 кг | – | **0,50** |
| Капуста, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,20 | **1,60** |
| Морква, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Памідоры, 1 кг | 1,50 | **1,70** |
| Перац, 1 кг | 1,39 | **1,20** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Бананы, 1 кг | 1,95 | **1,95** |
| Вінаград, 1 кг | 2,80 | **2,60** |
| Гранат, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Грушы, 1 кг | 1,50 | **1,00** |
| Дыня, 1 кг | 1,80 | **1,90** |
| Кавун, 1 кг | 0,80 | **0,60** |
| Ківі, 1 кг | 2,80 | **3,90** |
| Лімоны, 1 кг | 3,30 | **3,90** |
| Хурма, 1 кг | 3,50 | **4,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 0,50 | **1,00** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Сала, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Маладзечанка падчас сваркі стукнула сужыцтніка нажом

**МАЛАДЗЕЧНА**

У Маладзечне 37-гадовая мясцовая жыхарка падчас сваркі пасля сумеснага распівання спіртнога ўдарыла 48-гадовага беспрацоўнага сужытніка нажом. Пацярпелага даставілі ў рэанімацыю ЦРБ з пранікальным раненнем грудной клеткі.

Здарэнне адбылося 7 кастрычніка каля 22:50.

Маладзечанку арыштавалі па артыкуле «Затрыманне па непасрэдна ўзніклым падазрэнні ў здзяйсненні злачынства».

Крымінальную справу ўзбудзілі 8 кастрычніка па артыкуле «Наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання».

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## У аварыі пацярпелі пенсіянер і падлетак

**МАЛАДЗЕЧНА**

ДТЗ адбылося каля Плябані 6 кастрычніка каля 14:00.

44-гадовая мінчанка на Volkswagen Transporter не саступіла дарогу Renault Espace, якім кіраваў 40-гадовы жыхар сталіцы.

Самі кіроўцы не пацярпелі. А 75-гадовага пасажыра Renault і 13-гадовую пасажырку Volkswagen, вучаніцу мінскай гімназіі, забралі ў бальніцу. Усе ўдзельнікі ДТЗ былі прышпіленыя рамянямі бяспекі.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Ноччу ў Ашмянскім раёне гарэла сенасховішча

**АШМЯНЫ**

Паведамленне, што гарыць сенасховішча ў вёсцы Пакрывец Гальшанскага сельсавета, паступіла 9 кастрычніка ў 1:47. Пры пажары знішчаны дах і 150 тон сена. Прычыну ўзгарання высвятляюць.

**Паводле сайта МНС.**

## Пенсіянерка на «Фордзе» збіла дзяўчынку

**АШМЯНЫ**

У Ашмянах 6 кастрычніка пенсіянерка наехала на дзяўчынку, якая перасякала вуліцу Усходнюю не па пешаходным пераходзе справа па ходзе руху аўтамабіля.

Дзяўчынка бачыла машыну, але думала, што яна спыніцца. Пенсіянерка, якая кіравала «Фордам», казала, што ў вочы свяціла сонца, таму ехала павольна. І ўбачыла дзяўчынку перад самым капотам... Яна звалілася з капота, упала на асфальт. Ёй спатрэбілася медыцынская дапамога, паведамілі ў ДАІ УУС Гродзенскага аблвыканкама.

**Паводле ДАІ Гродна.**

## У мэблевым магазіне скралі грошы і камп'ютарны стол

**ВІЛЕЙКА**

Ноччу 4 кастрычніка невядомыя злачынцы праніклі ў мэблевы магазін «Лагуна», што знаходзіцца на вуліцы Чапаева.

Адтуль вынеслі выручку і камп'ютарны стол.

Шкода, што злачынцы нанеслі магазіну, склала больш за 245 рублёў.

Следчыя праводзяць праверку здарэння, расказалі ў Вілейскім РАСК.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Пры рэстаўрацыі касцёла смаргонец зваліўся з будаўнічых рыштаванняў і загінуў

**АСТРАВЕЦ**
**СМАРГОНЬ**

Жыхар Смаргоні загінуў падчас выканання рамонтных работ у касцёле ў вёсцы Клюшчаны Астравецкага раёна.

2 кастрычніка брыгада з трох рабочых на бязвыплатнай аснове абівала касцёл сайдынгам. Для працы на вышыні хлопцы выкарыстоўвалі самаробныя будаўнічыя рыштаванні – і яны ў нейкі момант адышлі ад сцяны.

30-гадовы рабочы зваліўся з вышыні больш за 3,5 метра. Ад атрыманых траўмаў ён памёр яшчэ да прыезду «хуткай дапамогі».

Следчыя ўжо высветлілі, што брыгада працяглы час займаецца выкананнем аналагічных работ без дзяржрэгістрацыі і выкарыстоўвае пры гэтым абсталяванне, якое не адказвае патрабаванням тэхнікі бяспекі.

Праверка працягваецца.

**Паводле сайта Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.**



Фота забяспечанае Валянцінай СОПАТ.

У гэтым пажары ў вёсцы Дамашы загінулі сын і маці.

# За тры дні ў пажарах на Маладзечаншчыне загінулі чатыры чалавекі

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Ад 5 да 7 кастрычніка ў Маладзечанскім раёне адбыліся тры пажары, расказала «Рэгіянальнай газеце» інспектар групы агітацыі і прапаганды Маладзечанскага ГРАНС Валянціна Сопат.**

### Загінуў 43-гадовы гаспадар

Пятага кастрычніка пасля 13:00 пра пажар у кватэры на трэцім паверсе паведамілі жыхары дома №55 па вуліцы Ігната Буйніцкага.

Ужо на месцы ратавальнікі даведаліся, што 43-гадовы гаспадар нідзе не працуе, жыве адзін. У кватэры няма пажарнага апавяшчальніка.

Калі тушылі пажар, каля 13:30, цела мужчыны знайшлі на ложку ў пакоі. Прычыну пажару высвятляюць. Магчыма, трагедыя здарылася з-за неасцярожнасці пры курэнні. Агонь пашкодзіў пасцель, канапу, шафу. Закураныя сцены.

### Згарэлі сын і маці

Шостага кастрычніка каля дзвюх гадзін ночы паступіла паведамленне аб пажары на вуліцы Зялёнай у Дамашах. Калі прыбылі першыя падраздзяленні, дом гараў адкрытым полымем. У розных пакоях ратавальнікі знайшлі цела загінулай 83-гадовай гаспадыні і яе 57-гадовага сына. Пажар знішчыў дах, дом выгараў знутры.

### У Яхімоўшчыне ахвярай агню стаў 32-гадовы вясковец

7 кастрычніка ў 5:30 раніцы ў ГРАНС паведамілі, што ў Яхімоўшчыне па вуліцы Лясной гарыць дом. Калі ратавальнікі прыбылі на месца, драўляны дом цалкам гараў знутры.

Пры тушэнні пажару на падлозе знайшлі загінулага сына гаспадыні дома. Вядома, што пастаянна ён тут не жыў.

Паводле інфармацыі Валянціны Сопат, электрычнасці ў доме не было з 2015 года. Яе адключылі за неаплату. У выніку пажару выгарала сцяна, знішчаны ложак, закураныя сцены ў доме.

Маладзечанскі ГРАНС рэкамендуе ўстанавіць пажарны апавяшчальнік і нагадвае, што самай распаўсюджанай прычынай пажару з'яўляецца курэнне ў ложку ў нецвярозым стане.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На Вілейшчыне дрэва забіла лесаруба

**ВІЛЕЙКА**

Пра здарэнне «Рэгіянальнай газеце» расказала афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Па яе словах, удзень 8 кастрычніка брыгада працавала ў лесе ля вёскі Берасніха, валілі дрэвы.

На 49-гадовага лесаруба зваліўся сухастой. Дрэва стукнула мужчыну па галаве.

Медыкі, што прыехалі на месца здарэння, канстатавалі смерць.

– Вілейскі РАСК цяпер праводзіць праверку. Агледзелі месца, дзе адбылася трагедыя. Апытваюць работнікаў і кіраўнікоў. Таксама следчыя вывучаюць дакументы, якія датычацца рабочага працэсу, інструктажы па тэхніцы бяспекі. Па выніках прымуць рашэнне, – расказала Таццяна Беланог.

Смяротнае здарэнне адбылося ў Іжанскім лясніцтве.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Пенсіянер на кані сутыкнуўся з машынай і загінуў

**СМАРГОНЬ**

Аварыя здарылася каля вёскі Чухны, што недалёка ад Крэва.

Каля сямі гадзін вечара 4 кастрычніка жыхар Чухноў, пенсіянер, кіраваў гужавой павозкай.

Выязджаючы на галоўную дарогу, мужчына сутыкнуўся з «Таётай» і загінуў.

**Паводле сайта МУС.**

## У нецвярозага вяскоўца скралі сто рублёў

**ВІЛЕЙКА**

Здарэнне адбылося ў вёсцы Літвінкі Кураненцкага сельсавета. 5 кастрычніка ў міліцыю звярнуўся мясцовы жыхар і паведаміў, што ў прамежак часу ад 11:00 да 14:00 невядомы скраў з унутранай кішэні яго курткі, што вісела дома, сто рублёў.

Сам пацярпелы ў гэты час быў нецвярозы.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

# Дакраніся да гісторыі і спраўдзі жаданне

## Чаму варта наведаць музей у Маладзечанскай санаторнай школе-інтэрнаце

МАЛАДЗЕЧНА

**Што вы робіце, каб спраўдзіць нейкае ўласнае жаданне? Шмат працуеце? Шукаеце аднадумцаў і спонсараў? А між тым ёсць больш просты і цікавы спосаб. Пра яго нам расказалі ў музеі Маладзечанскай санаторнай школы-інтэрната.**



Ігар Шкаруба паказвае дзяўчынкам прылады для ткацтва.

Трэба завітаць сюды і папрасіць кіраўніка музея **Ігара Шкарубу**, каб ён дазволіў вам дакрануцца да старажытнай глінянай цагліны. На ёй – адбітак далоні невядомага майстра, які ў 14 стагоддзі будаваў Маладзечанскі замак.

Кажуць, калі пакласці сваю далонь на той адбітак, жаданне абавязкова здзейсніцца. Паспрабуйце. А заадно паглядзіце на іншыя экспанаты і паслухайце экскурсію Ігара Шкарубы. Кіраўнік музея, нягледзячы на няпростую працу педагога сацыяльнага, знаходзіць час на захапленне краязнаўствам.

### Дзеці, што сумуюць без бацькоў, любяць бываць у музеі

У самога Ігара Мікалаевіча цікавасць да гісторыі і краязнаўства з дзіцячых гадоў:

– З дзяцінства я заўсёды цікавіўся гісторыяй, яна мяне захапляла. У свой час, калі я вучыўся ва ўніверсітэце на філалагічным факультэце, мы разам са студэнтамі-гісторыкамі неаднаразова былі на раскопках у гомельскім парку імя Луначарскага. Было цікава паглядзець на старажытнасць. Яшчэ да войска зацікавіўся пытаннямі свайго радаводу. Распытаў бабуль, склаў родавае дрэва, якое перадам сваёй дачцэ.

Музей працуе ў школе-інтэрнаце ад 2007 года. Экспанаты збіраюцца паступова. Нешта кіраўнік музея прывозіць ад цешчы з Валожыншчыны, нешта прыносяць сябры, нешта набывае ў людзей сталага веку. Сёння ў музеі каля двухсот экспанатаў. Асноўны фонд – прадметы побыту сялян і гараджан сярэдзіны 19 пачатку 20 стагоддзя.

Самыя частыя наведнікі музея – вучні школы-інтэрната, якія прыязджаюць сюды вучыцца і папраўляць здароўе з розных куткоў Міншчыны. Дзеці на доўгі час адрываюцца ад сям'і, пазбаўляюцца бацькоўскай пяшчоты, а ў музеі пачуваюць сябе, як дома. Часта пытаюцца, ці можна зайсці яшчэ.

### Колькі б гэтыя рэчы нам расказалі

– Дзеці рознага ўзросту па-рознаму ставяцца да старых рэчаў, – заўважыў Ігар Шкаруба. – Але большая частка з цікавасцю слухае, калі гэта рэч была зробленая, для чаго яна выкарыстоўвалася.

> **Звычайна, калі распачынаю экскурсію, прыводжу словы фальклярыста, харавога дырыжора Рыгора Раманавіча Шырмы, які ў свой час сказаў, што песня – гэта душа народа, а душу немагчыма забіць, бо яна не памірае.**

Усё, што ёсць у музеі, зробленае рукамі чалавека і з душой. Калі б гэтыя рэчы маглі гаварыць, колькі б цікавых расповедаў мы ад іх пачулі.

Юныя наведнікі любяць пасядзець на музейным ложку, а ў гэты час Ігар Мікалаевіч распавядае ім пра арнамент на дыване і на посцілцы. На дыване – арнамент, які сімвалізуе крыніцы. На посцілцы – сімвал ракі ў сонечны летні дзень. Нашы продкі з павагай ставіліся да вады, кажа настаўнік. У музеі – багатая калекцыя ткацкіх вырабаў. На некаторых з іх – арнамент дахрысціянскага перыяду.

З задавальненнем дзеці спрабуюць пісаць старымі пёравымі ручкамі, разглядаюць акамянелы рог, якому больш за мільён гадоў.

### Экспанаты дазваляюць мацаць рукамі

> **У музеі дазваляецца амаль усё: нават мацаць экспанаты рукамі і гушкаць калыску з немаўляткам, якому дзяўчаты ўжо далі імя Андрэйка.**

Хлопцы з цікавасцю разглядаюць штых-нож часоў Напалеона і Першай сусветнай вайны, каменнае ядро 15 стагоддзя.



Экспазіцыі ў музеі збіраліся ад 2007 года.

Увагу дзяўчат кіраўнік музея звяртае на дзяжу. На яе, па народным звычаі, садзілі дзяўчыну перад вяселлем. Калі дзяўчына садзілася на пасад, не будучы цнатлівай, у сямейным жыцці яе чакалі няшчасці.

Усім без выключэння цікавы лапаць. Расказваючы пра яго, кіраўнік музея выкарыстоўвае народную педагогіку. Згадвае прымаўку «За пераборкі даюць аборкі». Пасля тлумачыць дзецям, што аборкі – гэта вяровачкі, якімі завязвалі лапці. А прыказка датычылася дзяўчат, што былі пераборлівымі. Адным не падабаўся, што хлопец лысы, другім – што ў яго нос доўгі.

### Побач праваслаўе, каталіцызм і паганства

Старая біблія ў драўлянай вокладцы, што больш за стагоддзе таму ляжала за алтаром, куфар, жорны, ручнікі, сямейныя альбомы пачатку 20 стагоддзя... Разглядаць экспанаты можна бясконца.

У музеі з'яднаныя адразу некалькі рэлігій. Вось – праваслаўны абраз, побач – каталіцкі. На паліцы – нацельныя крыжыкі і абразкі стараабрадцаў. А над уваходам – як рэха дахрысціянскіх часоў – падкова на шчасце.

**Пабачыць усю гэту гістарычную разнастайнасць можа кожны ахвотны. Трэба толькі звязацца з адміністрацыяй школы па тэлефоне 8 (0176) 532494.**

І калі трапіце ў музей, не забудзьцеся пра чароўную цаглінку.

**Ксенія ДУРОВІЧ.**




# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

** Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

**Дзе падаць аб'яву**

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• УАЗ-469, нядорага. Т. (8-029) 9156731, (8-029) 2195845.*

• ФВ-Джэта. Т. (8-044) 7771933, (8-029) 7781447.*

• Фіят-Тэмпра, 1995 г.в., 1,6 і, торг, нядорага. Т. Вэлком (8-029) 3184874.

• Форд-Фіеста, 2008 г.в., аб'ём 1,4, сіні металік, прабег 82 тыс. км. Адзін гаспадар. Куплены ў салоне. Т. (8-029) 3900224.

• Шаўрале-Ланос, 2009 г.в., 1,5 Б, седан, шэры, 6500 руб. Т. (8-029) 9851494.

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 9928406.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 9961242.*

• Аўто, можна аварыйны. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

• Матацыкл «Мінск» на хаду. Т. (8-029) 6575037.*

Калектыў «Рэгіянальнай газеты» выказвае шчырыя спачуванні сябру рэдакцыі прафесару **Адаму Мальдзісу** і дызайнеру **Яраславу Мальдзісу** з прычыны смерці сына і брата Алега. Мы раздзяляем ваша гора і падтрымліваем вас у гэтыя часіны.

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы з еўрарамонтам альбо абмяняю на Мінск. Т. (8-025) 5296374.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 8600978.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 2716509.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Віленскай, 31. Т. (8-033) 6677230.*

• 3-павярховы жылы дом у цэнтры Вілейкі. Укамплектаваны мэбляй, трэнажорны комплекс «Кетлер». З гаражы. Жылая плошча 170 кв. м. Цана дагаворная. Тэрмінова. Т. МТС (8-029) 5058543.

• Дом у в. Баранцы Вілейскага раёна па вул. Лясной, д. 1. Участак 0,20 га, гаспадарчыя пабудовы. Цана дагаворная. Т. (8-029) 7556719.

• Дом у Вілейцы. Т. (8-044) 4757327.*

• Дом новы, 7х10, у в. Мароські, 10 км ад Маладзечна, участак 0,25 га, даўжыня 100 м, газ падведзены да дома, 15 хвілін ходу пешшу да электрычкі. Т. дамашні (8-0176) 720022, (8-033) 6688500.*

### ЗДАМ

• Кватэра з мэбляй ў Вілейцы на доўгі тэрмін. Т. (8-029) 6610717.

## ПАСЛУГІ

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерседэс-412, 3 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-пагрузчык, міні-экскаватар, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 1790000.*

• Міні-пагрузчык: планіроўка, зняцце грунту, прыборка смецця, снегу і г. д. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772 Т. (8-029) 6926052.*

• Міні-экскаватар. Экскаватар-пагрузчык (бур). Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Адлівы, парапеты, парасоны (зонтики) для комінаў і іншыя вырабы з бляхі (жести). Выбар колеру. Дастаўка. КА 6608431 Гіро А.А. Т. (8-029) 6051169, (8-029) 8495238.*

• Антэны спадарожнікавыя, лічбавае ТБ, усе віды паслуг. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• **АЦЯПЛЕННЕ. ВОДАПРАВОД. КАНАЛІЗАЦЫЯ**. Усе віды сантэхнічных работ. КА 8079764 Ганчар І.І. Т. (8-029) 7789954.

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт ЖК-тэлевізараў, ноўтбукаў, спадарожнікавых антэн, выезд майстра. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцэр А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛОЎВАННЕ, АБРЭЗКА ДРЭЎ**. Бяспечныя метады працы. Прафесійная праца супрацоўнікаў. Кансультацыя і ацэнка **БЯСПЛАТНЫЯ**. Працуем больш за 6 гадоў. Спілоўванне + драбленне пнёў – **СКІДКА**. **ВЫВАЗ** галля і драўніны. ІП Таўгень Е. П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*





# Маю права

**Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзеленыя розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу брацтва.**

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.


# «На Каляды запрагу воз і па вёсках паедзем!»

## Вясковы актывізм: маладзечанка адраджае сядзібу прадзеда

ВІЛЕЙКА

**Калі Вольга ўвайшла ў дом, які збіраецца аднавіць, адразу заплакала. Тут столькі працы, што нават губляешся. Далучыцца гатовыя валанцёры – але ці здужаюць давесці справу да канца?**

Вольга Трубач усё лета паведамляла на сваёй старонцы ў «Фэйсбуку», як працуюць валанцёры на сядзібе яе прадзеда Міхалюка ў вёсцы Любкі Вілейскага раёна. Жанчына запрасіла ўсіх ахвотных дапамагчы з рамонтам узамен на начлег, ежу і добра праведзены час. Далучылася 20 чалавек. Трэба было пачысціць старыя рэчы, навесці парадак у двары, зняць шпалеры, якія былі наклееныя ў восем слаёў.

Вясной яна плануе аформіць з дома аграсядзібу і распачаць працу ў гэтым накірунку. Як гэта – захапіць сваёй марай іншых людзей, задумаць зарабляць у вёсцы і знаходзіць сілы давадзіць нават складаную справу да канца? Пра гэта жанчына расказала карэспандэнту «РГ».

### Як рашылася

– Гэты дом прадзеда па мамінай лініі быў мне дарагі заўсёды. Дзяцінства праходзіла там. Калі памёр дзед, а бабулю Валянціну забралі да сябе, усё роўна прыязджалі ў Любкі.

Мне пастаянна сніўся адзін і той жа сон. Што ў тым доме вывальваюцца вокны. Я хаджу, зачыняю, а яны ўсё роўна вылазяць з аканіц. Вокнам больш за сто год, як і дому. Толькі на кухні мянялі недзе ў 60-я гады. Вось сёлета як пачалі рамонт, то больш не сніцца.

Задума адрадзіць сядзібу лунала не адзін год. Летась, калі была ў гарах, раптам зразумела, што павінна гэта зрабіць. Адтуль напісала сёстрам, Іры і Тані. Пасля яны сказалі, што гэта штуршок для іх, і бацькі далучыліся.

### Будзе інтэрактыўны музей

Планую ўжо ў сярэдзіне наступнага лета, што нешта будзе. А да вясны аформіць аграсядзібу. Месца, дзе людзі будуць начаваць, – гэта адна рэч. А мне яшчэ важна зрабіць экспазіцыю. Пабудоў некалькі: ток, пуня, стайня, свіран, дрывотня, паветка. Там шмат рэчаў, прыладаў, якія проста ляжаць раскіданыя. Хачу іх раскласці, запісаць, для чаго яны.

Ёсць мясцовы жыхар, які мае шмат менавіта мясцовай інфармацыі. Хачу ўсё гэта занатаваць. Я яшчэ ў працэсе, як гэта зрабіць. Але хачу, каб атрымалася экскурсія, прычым інтэрактыўная. Каб гэтыя рэчы можна было памацаць, паспрабаваць.

Напрыклад, стаіць стогадовы варштат. Гэта драўляны станок без аніводнага цвіка. На ім выразалі мэблю. Напрыклад, адзін з ложкаў у доме майстравалі якраз на ім. Гасцям буду дазваляць паспрабаваць майстраваць, але акуратна.

У нас ёсць воз, які доўга не выкарыстоўвалі ў гаспадарцы. Навучуся запрагаць каня, на Каляды запрагу воз і па вёсках паедзем калядаваць!

Не хачу, каб гэта пераўтварылася ў гасцініцу, дзе можна толькі пажыць. Зраблю пляцоўку, дзе буду ладзіць тэматычныя мерапрыемствы, выставы выцінанкі, ноч танцаў. Для групы дзяцей – інтэрактыўны музей, навучанне танцам, гульні. Запрашу бабуляў, гэта ж жывая гісторыя. Я запісваю іх, каб успаміны не знікалі.

У двары расце дуб. Увесь двор дае адчуванне, што гэта месца сілы. Прычым не толькі для мяне, для гасцей таксама. І яны таксама гэта адчуваюць.

### Іншыя сядзібы – канкурэнты?

Была ў сядзібе ў Навасадах. У гаспадара больш ухіл на сучаснае мастацтва і творчае самавыяўленне. Крыху іншая тэматыка, таму не лічу, што мы канкурэнты. У мяне ўхіл на этнаграфію і традыцыі. А чаму б не быць партнёрамі? Пагасцілі ў нас – накіроўваюцца ў Навасады.

Ёсць яшчэ аграсядзіба, дзе ладзяць байдарачныя туры. Спусціліся адтуль на байдарках да нас, паабедалі і далей адпачываць. Буду імкнуцца рабіць сваю максімальна адметнай. Напрыклад, у Любках была традыцыя ладзіць абрад «Цыганы». Калі на чацверты дзень вяселля мясцовыя пераапраналіся. Мужчыны ў жанчын, жанчыны ў мужчын. Каб адпачынак тут меў краязнаўчую, нават гістарычную нотку.

### Што рабіць з гасцямі, якія прыехалі «пабухаць»

Магчыма, раз пушчу такіх людзей. Пагляджу на свой стан, стан сядзібы. Вызначуся досведам. Ёсць такая практыка, калі сям'я прыязджае на месяц-два пажыць.

У плябанскі музей традыцыйнай культуры прыязджаюць класамі. Чаму б да мяне не прыязджаць так?

### Дапамагаюць не толькі валанцёры

Ёсць людзі, якія гатовыя дапамагчы грашыма. Запусціла на платформе «Талака» краўдфандынг. З тых грошай, што збяром, думаем зрабіць каналізацыю, замяніць бэлькі. З аднаго боку шашаль завёўся. Рабочыя рукі трэба аплаціць.

Бізнес у мяне стаіць на другім месцы. Спачатку трэба зрабіць справу. Хаця я шмат вандравала і бачыла, напрыклад, у Эстоніі, як паспяховы марскі музей адначасова з'яўляецца і месцам для жыцця.. Не думаю, што яны спачатку глабальны бізнес-план бамбілі. Само склалася.

> **Галоўнае – гэта мэта, зарад. І ён запальвае іншых.**

### Як змагла запаліць сваёй марай

Часам, калі пералічвалі грошы, дадавалі, што гэта ж не для мяне, для ўсіх. Некаторыя прыязджалі і працавалі. Часам было, што не зайшло – дзякуй, што паспрабаваў. Любкі – дагледжаная вёска. Платы робяць, ліштвы падфарбоўваюць. Атмасфера такая, што хочацца тут быць.

Вяскоўцы мне прыносяць абрусы – зрабілі з іх выставу, развесілі, і падчас танцавальнага летніка «Любкі-фэст» госці іх разглядалі як экспанаты ў музеі.

Ладзіла паказ дакументальнага фільма «Перазімаваць», запрасіла мясцовых бабуль. Адна так расчулілася, аж заплакала.

Для сельсавета, я думаю, таксама важна, што тут нешта адбываецца. Вяскоўцам больш не хапае мерапрыемстваў, іх душа хутчэй адгукаецца на святы.

### Што тут будзе ўжо хутка

З тых васьмі слаёў шпалераў выразалі невялікі кавалак, каб пакінуць у рамцы. Бабуля Валянціна не вельмі зразумела, для чаго пакінулі сцены голымі. Яе вельмі цешыць, што тут наводзяць парадак.

У доме ўжо працуе печка. Гэта проста наступны ўзровень, можна збірацца зімой. Хочам зрабіць Дзяды. Ведаю, што бабулі па-ранейшаму чакаюць ад нас канцэрт, а не назіранне за майстар-класамі. То за мной доўг!

Калі зраблю дом, напэўна, зноў буду плакаць, ужо ад радасці. Веру, што продкі ўсё гэта бачаць і радуюцца. Бо я часам знаходжу рэчы – то грамату, то малюска, якога Міхалюк прывёз з Амерыкі. Адчуваю, ён назірае, і сувязь узмацняецца. Людзі жывуць, пакуль пра іх памятаюць. Узнаўляецца кантакт з продкамі, які ні за якія грошы не купіш.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**


Фота забяспечанае Вольгай ТРУБАЧ.

Вольга Трубач выглядае з акна дома свайго прадзеда Міхалюка ў Любках.

Спасылка на кампанію Вольгі Трубач на «Талацэ»: talaka.org/projects/3013/overview



# У Маладзечне могуць стварыць парк для спатканняў

## Маладзечанцы разглядалі, у чым унікальнасць горада і як прыцягнуць турыстаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Трэцюю сустрэчу дыскусійнага клуба «Маладзечна гаворыць» неабыякавыя жыхары горада правялі 7 кастрычніка. У гэты раз яны пагутарылі на тэму «Маладзечна як брэнд».**



Ганна Сафонава (у цэнтры) прадстаўляе ідэю «Love-парку».

На дыскусію, што чарговы раз праходзіла ў «Адкрытай прасторы», запрасілі гасцей. Адна з іх – мінчанка **Маргарыта Лазарэнкава**, заснавальніца арганізацыі Creative Belarus. Яна адкрыла лофт-прастор «Бэлькі» – адну з першых мінскіх прастор, якія збіраюць вакол сябе культурныя ініцыятывы, адукацыйныя праекты. Пагутарыла з удзельнікамі на тэму «Крэатыўныя гарады і рэгіёны: як крэатыўныя індустрыі ўплываюць на развіццё горада».

Маргарыта ўдзельнічала ў якасці мясцовага эксперта ў частцы «Крэатыўныя гарады і рэгіёны» праграмы ЕС і Усходняга партнёрства «Культура і крэатыўнасць». Праграма завяршылася ў студзені 2018 года, падтрымлівала і прасоўвала творчыя індустрыі ў Еўропе.

– Мы разглядаем творчасць як сектар эканомікі крэатыўнай індустрыі, які робіць свой уклад на УВП краіны, – патлумачыла Маргарыта. – Ведаеце такі выраз: «Хто валодае інфармацыяй, валодае светам»? Цяпер усё змянілася. Інфармацыю можна выкрасці, распаўсюдзіць, яна больш не з'яўляецца канкурэнтнай перавагай. Постінфармацыйны этап развіцця – крэатыўная эканоміка. Галоўны фактар вытворчасці – крэатыўнасць, лідзіруе той, хто генеруе новыя ідэі.

### Што такое «эфект Більбаа»

Творчасць залежыць ад натхнення, якое можа прыйсці ці не. Крэатыўнасць – спосаб па-новаму глядзець на рэчы, навык, у якога ёсць мэта.

Маргарыта расказала, як крэатыўныя індустрыі мяняюць гарады.

Удзельнікі абмеркавалі «эфект Більбаа». Цэлы горад можна змяніць з дапамогай знакавай пабудовы. Гэта адбылося з невялікім прамысловым горадам Більбаа на поўначы Іспаніі. Там пабудавалі музей Гугенхайма – цэнтр сучаснага мастацтва. Спачатку творчая эліта, а потым звычайныя турысты сталі наведваць горад, каб убачыць музей. Яны выдаткоўвалі грошы на гатэлі, кафэ і таксі. За некалькі гадоў Більбаа стаў культавым месцам – і горад ажыў.

### Вар'яцкія елкі – папулярны горад

На інтэрактыўнай гульні Маргарыта паказала, як на людзей уплывае жыццё ў шэрых гарадах. Вывела на экран шэсць колераў і столькі ж геаметрычных фігур. І прапанавала выбраць тыя, што падабаюцца больш за ўсё. Нікому з удзельнікаў не прыйшліся па душы карычневы колер і прамавугольнік. «У мяне тады пытанне», кажа Маргарыта і паказвае фота стандартнага жылога дома карычневага колеру.

Псіхалагічна мы абіраем іншае, але ўмовы вымушаюць жыць у непрывабных дамах. Безумоўна, яны ўплываюць на наш настрой, патлумачыла спікер.

Паспяховым і бюджэтным выйсцем можна лічыць прыклад Нью-Ёрка. У горадзе была праблема – непрыгожы мост, пад якім мужчыны «спраўлялі патрэбу». Муніцыпалітэт горада запрасіў дызайнераў, каб тыя пафарбавалі мост. Надпіс «Yes», каляровы і чорна-белы фоны – і шчаслівыя маладыя фатаграфуюцца ля яго.

Танна абышлася папулярнасць і эстонскаму Ракверу. Там зладзілі штогадовы конкурс на самую вар'яцкую елку.

### Даведаліся, як прасоўваць гарадскія праекты

Наведаў сустрэчу і **Дзяніс Лазарэнкаў** – сузаснавальнік стартапа ў сферы інтэрнэт-маркетынгу SmartSub і выкладчык курсу па Growth-Hacking Marketing у Інстытуце IBA у Беларусі. Ён падзяліўся досведам па тэме «Карысныя інструменты інтэрнэт-маркетынгу для прасоўвання гарадскіх праектаў і мерапрыемстваў».

**У практычнай частцы на сустрэчы правялі «мазгавы штурм» і падумалі, якія крэатыўныя ідэі можна ажыццявіць у Маладзечне.**

Дзве групы ўдзельнікаў прыдумвалі асацыятыўныя рады да «Маладзечна» і распрацоўвалі канцэпцыі горада як брэнда.

### Якія «фішкі» ёсць у Маладзечне

Адна група знайшла цікавосткі ў музычна-паэтычнай спадчыне. Прыгадалі, што ў горадзе ёсць ансамбль лірычных баянаў, знакаміты хор «Журавачка», ансамбль лыжкароў.

– Можам развіваць камерцыйныя пляцоўкі, мяняць фармат канцэртаў. А яшчэ Маладзечна – гэта гісторыя. Дзе яшчэ ў Беларусі была трыумфальная арка? Чаму на вуліцы Маркава не рабіць нейкі «дзвіж», не расказваць пра гісторыю горада? **Ірына Тархан** прапанавала рабіць магніты ці паштоўкі з малюнкамі той жа аркі, – падзялілася ідэямі актывістка **Таццяна Семашкевіч**.

Разгледзелі і спартыўны накірунак. У Маладзечне ёсць фехтаванне для людзей з абмежаванымі магчымасцямі, шыкоўны пляжны валейбол, шмат басейнаў.

Па словах другой актывісткі **Ганны Сафонавай**, адна справа – зацікаўліваць маладзечанцаў. Іншая – турыстаў.

**– Калі ехаць з Еўропы, Маладзечна знаходзіцца на шляху ў сталіцу. Трэба зрабіць так, каб людзі заставаліся тут на некалькі дзён. Прычым адразу разумелі, што ў нас за горад.**

### Размаляваць закінутыя будынкі

Маладзечна таксама асацыюецца з музычным горадам. Прапанавалі ўсталяваць стылізаваныя лавачкі ля музвучылішча, пюпітры, на якіх навучэнцы змогуць выстаўляць ноты, рэпеціраваць, пазбаўляцца страху перад публікай. Падобнае можна зрабіць і ля школы з мастацкім ухілам, у парку. Каб музыка гучала не ў адным месцы, а разлівалася па горадзе.

Наступная ідэя – выкарыстанне закінутых будынкаў у Маладзечне як палотнаў для мастакоў. Не проста графіці ў выглядзе «мазні» – а прыгожыя выявы.

### «Love-парк» – парк спатканняў

А яшчэ Маладзечна назвалі горадам маладых. Шмат моладзі, студэнтаў, маладых сямей з дзецьмі. Брэнд можна рэалізаваць з дапамогай сквера, што ля рэчавага рынку. Стварыць з яго «Love-парк» – парк спатканняў. Сэнс такі: дзяўчына з хлопцам сустракаюцца, а гуляць няма дзе – ідуць у парк. А там ёсць 12 мосцікаў і пэўны маршрут. Не ведаюць, пра што пагутарыць – на гэтых мосціках падказкі. Для першага, для другога спаткання…

– Для спаткання з першым дзіцем, – смяюцца ў зале.

**Таксама прагучала ідэя стварыць шыльду з надпісам – «Я люблю Маладзечна».**

Па словах актывісткі **Ганны Холад**, у бліжэйшых планах – стварэнне крэатыўнай карты Маладзечна, якую прэзентуюць 27 кастрычніка. І правядзенне інклюзіўнай вечарынкі.

– У дыскусійны клуб трапіў выпадкова, знайшоў праз пасты ў сацсетках. З-за занятасці прыйшоў толькі на трэцюю сустрэчу. Тут класныя людзі з агеньчыкам у вачах, гатовыя працаваць цэлымі днямі за крутую ідэю. Паўдзельнічаў бы ў арганізацыі «парку кахання». Ідэя проста касмічная. Яна зробіць горад лепшым, а людзей трошкі больш шчаслівымі, – падзяліўся ўдзельнік сустрэчы **Барыс Аніхоўскі**.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

Больш фота – **на rh.by!** Адскануйце QR-код або перайдзіце па спасылцы: **bit.ly/brandmola**



# Яго не прызналі ветэранам вайны

ВІЛЕЙКА

**Майму земляку, аднадумцу і сябру Уладзіміру Канстанцінавічу Барысевічу споўнілася 90 год.**

2 кастрычніка віншаваць юбіляра сабралася амаль уся вёска Сакалоўка і прыезджыя госці. Арганізатарамі ўрачыстасці выступілі Хаценчыцкі сельсавет і Лукавецкі Дом культуры. Пасля афіцыйнай часткі віншаванні мелі працяг ужо за святочным сталом, які падрыхтавала адна з унучак юбіляра, Марынка. Душэўныя і жартоўныя беларускія песні галасістых мясцовых артыстаў радавалі душу і сэрца. Было ўсё арганізавана ад душы, з улікам традыцый.

## Бацька пайшоў у савецкае «райскае» жыццё

На доўгім жыццёвым шляху Уладзіміра былі не толькі радасць дзяцінства, але і безбацькоўшчына як сына «ворага народа». Юнацтва, падчас якога не раз глядзеў у вочы смерці. Непрызнанне ўдзельнікам вайны.

Уладзімір Канстанцінавіч заўжды быў і ёсць народным любімцам. І не распавесці пра яго вельмі складаны жыццёвы лёс было б з майго боку несправядліва. Шмат што з мінулага захавала яго памяць. Цяпер распавяду пра раней не згаданыя яго ўспаміны.

Нарадзіўся Уладзімір 2 кастрычніка 1928 года на Банэткавым хутары ў вярсце ад Чарвякоў (цяпер Сакалоўка), што на Вілейшчыне. Назва хутара паходзіла ад імя дзеда Бенядзікта. Маці, Анэта Кучко, 1900 г.н., з сусbody Борак. А тата, Канстанцін Барысевіч, 1898 г.н., карэнны чарвяковец.

Сястра Еўка і брат Адам былі старэйшыя за Валодзю, а самым малодшым у сям'і быў Грышка. Дзякуючы працавітасці і сямігектарнаму кавалку зямлі гаспадарка была моцная, а сям'я мела статус заможнай.

Бацька з самага маленства прывучаў дзяцей да нялёгкай сялянскай працы. Кожны выконваў работу па сіле і па здольнасцях. Маленькаму Валодзьку не было і шасці год, калі сям'я засталася без гаспадара. У 1934 годзе Канстанцін Бенядзіктавіч вымушаны быў пакінуць не толькі сям'ю, але Заходнюю Беларусь. А падстава для сыходу ў савецкую краіну была звычайнай для таго часу – выведка на карысць бальшавікам.

Канстанцін Бенядзіктавіч акрамя працы на сваёй зямлі падпрацоўваў фурманам пры Хаценчыцкай гміне. Вазіў войта гміны і па магчымасцях збіраў інфармацыю, якая цікавіла бальшавіцкіх лазутчыкаў, у замен на абяцанае добраеажыццё ў савецкай Расіі. А калі польскія ўлады пачалі падазраваць Канстанціна ў здрадзе, ён патаемна сышоў за мяжу ў савецкі Крамянец.

## Бацька загадаў ехаць у савецкі «рай»

Тады савецка-польская мяжа пралягала акурат па рэчцы Вяпратка, у 800 метрах на ўсход ад Чарвякоў. Першы ліст ад Канстанціна Бенядзіктавіча сям'я атрымала праз тры гады, увосень 1937 года з Сыктыўкара (Комі). Бацька пісаў, што мае добрую працу і жытло. Загадаў, каб сям'я распрадавала гаспадарку і чакала выкліку на пераезд у РСФСР.

> **Пасля бацькавага пісьмовага загаду сям'я хуценька распрадала ўсё, пакінуўшы толькі адну карову. Жыццё завісла ў невядомасці паміж хутарам і шчаслівым савецкім «раем». Час ішоў, вычураныя грошы праядаліся. Каб засеяцца ды ўбрацца, трэба было наймаць каня і ўсё да каня. Ужо наступіў і 1939 год, а выклік ад бацькі з савецкай краіны так і не прыйшоў.**

17 верасня сюды прыйшлі саветы. Баёў на мяжы ніякіх не было, таму што польскія памежнікі яшчэ з вечара знялі свае пасты з вышкі, што стаяла на чарвякоўскіх могілках. І ўсе пакінулі стражніцу ля возера. Бой адбыўся толькі каля стражніцы ў суседніх Борках. У ім загінулі тры польскія памежнікі.

Да вясны 1940-га было спакойна. Чарвякоўцы і хутарское сялянства жылі звычайнымі клопатамі. Вясной саветы распачалі калектывізацыю. Ужо засеяную уласнікамі зямлю забралі на карысць калгаса.



Віншуюць юбіляра. Алесь Раткевіч (злева) і Уладзімір Барысевіч.

## Пагражала раскулачванне

Хутар Барысевічаў таксама патрапіў пад пераўтварэнні. Зямля, якую не цалкам апрацоўвалі, таму што не мелі каня і сельгасінвентару, перайшла ў калгас. А разам з зямлёй уласнік павінны быў здаць у калгас каня, збрую да яго і ўсе прылады для апрацоўкі глебы і ўборкі ўраджаю. А так як усё гэта ўжо прадалі, то і здаць не было чаго.

З-за гэтага над сям'ёй Барысевічаў навісла пагроза дэпартацыі ў сібірскія абшары. Але неяк усё ўціхлася. Магчыма, з-за таго, што ўлада пераключылася на суседні хутар Паўловічаў. Ім пагражала раскулачванне, бо мелі восем гектараўворнай зямлі і шэсць гектараў лесу-асінніку. Сам **Мікалай Паўловіч** быў родам з Забор'я Ільянскага. У 1919 годзе маладым ездзіў на заробкі ў Амерыку. Вярнуўся адтуль праз чатыры гады ўжо з добрымі грашыма і адразу ажаніўся з настаўніцай польскай мовы з Малявічаў **Вольгай Шышкай**. Маладыя вырашылі асесці ў Чарвяках.

Купілі ў пана Бароўскага зямлю, лес воддаль ад вёскі і распачалі будавацца. Пабудаваліся, сям'я павялічвалася, гаспадарка разрасталася, моцна сталі на ногі – і раптам усё развалілася. Усё, што нажывалася і будавалася сваімі рукамі, у адначассе адабралі пасля 17 верасня.

## Бальшавікі сышлі, прыйшлі фашысты

Амаль цэлы год Паўловіча НКВД то арыштоўвала, то адпускала. Невядома, як далей склаўся б лёс хутаран, каб не вайна. Савецкая ўлада як прыйшла, гэтак жа і сышла ўжо на другі дзень вайны. А людзі пасля сыходу бальшавіцкага «раю» пачалі разбіраць з калгасных складоў сваю маёмасць, канфіскаваную бальшавікамі.

Пасля сыходу бальшавіцкай улады ўжо на наступны дзень у Чарвякі на бронемашыне і матацыклах прыехалі немцы. Нямецкая акупацыя прынесла руйнаванне, безуладдзе, гвалт, забойствы ды галодную смерць ні ў чым не вінаватага насельніцтва. Немцы адразу пазабіралі ў жыхароў значную частку гаспадарчай жыўнасці. Цалкам ачысцілі птушнік, у якім яшчэ пры пану Бароўскім гадаваліся качкі. Коні засталіся лічаныя і былі нарасхват.

А калі за панскімі ставамі ў забалочаным лесе з'явіўся лагер невядомых узброеных людзей, чарвякоўцам давялося развітацца і з тымі коньмі, якіх не забралі немцы. Тыя ўзброеныя людзі экспрапрыіравалі апошнюю вясковую цяглавую сілу, як яны казалі, «для вайсковых патрэб».

Той атрад называўся «Аляксееўскім» і налічваў 32 вайскоўцаў. Назва, хутчэй за ўсё, паходзіла ад прозвішча камандзіра Аляксеева.

**Алесь РАТКЕВІЧ,**
**Чысць.**

**Фота забяспечанае аўтарам.**

*Працяг будзе.*

# Станачкавы, Старулёвы, Мамэртавы...

## З гісторыі крэўскіх мянушак

СМАРГОНЬ

*Заканчэнне. Пачатак у №№39, 40.*

**Жыў некалі ў Крэве чалавек, якога мы, дзеці, вельмі баяліся і абыходзілі бокам. Ды і многія з дарослых яго пабойваліся, хоць чалавек той вызначаўся сціпласцю і набожнасцю.**



Крэва, 1970-я гады. Вяселле Галіны Шуркавай.

Быў ён добрым печніком і валодаў сакрэтамі, дзякуючы якім змайстраваныя ім печкі служылі доўга і надзейна. Адна з іх да гэтага часу спраўна працуе і ў маім доме.

Казалі, што, акрамя прафесійных сакрэтаў, меў той чалавек і іншыя, зусім не сумяшчальныя з яго набожнасцю і лагодным характарам. Па словах сведкаў, яму нічога не каштавала мізэрнай колькасцю алкаголю давесці да беспрытомнага стану добры натоўп людзей альбо наслаць на каго-небудзь са сваіх крыўдзіцеляў невядомую хваробу, нясцерпны сверб ці дакучлівую маркоту. Ды і мянушка ў яго была таксама нейкая незвычайная і таямнічая – Дарагон.

Нічога не скажу вам наконт праўдзівасці людскіх аповедаў аб неверагодных здольнасцях Дарагона, а вось адкуль пайшла яго мянушка – гэта высветліць усё ж удалося. Праўда, нічога таямнічага ў тым не аказалася – звычайная, хоць і даволі забаўная, гісторыя.

У часы дзяцінства нашага героя вялікай папулярнасцю сярод гаспадароў карыстаўся гатунак ураджайнай і хуткаспелай бульбы, якую называлі Дарагонкай.

У сям'і хлопчыка, акрамя яго самога, было некалькі дзяўчынак. Дык вось аднойчы маці, у захапленні ад сваіх прыгажунь-дачок, параўнала іх з тымі самымі каштоўнымі бульбінкамі, якія таксама радуюць вока і сваім выглядам, і хуткасспеласцю. І як часта здараецца, тыя, хто чуў гэта, паспяшаліся надзяліць дзяўчынак мянушкай Дарагонкі, а іх адзінага брата, утварыўшы ад слова мужчынскі род, празвалі Дарагонам. Пазней, калі дзяўчаты павыходзілі замуж, пра іх мянушкі ніхто і не ўзгадваў, а вось брату давялося насіць сваю да канца жыцця.

### Гедыміны ды ўланы

Часта самі родзічы стваралі глебу для таго, каб людзі надзялялі іх блізкіх той ці іншай мянушкай. Параўнаўшы аднойчы сына з уланам, удалым ваенным, маці нават не падазрае, што за ім на ўсё жыццё замацуецца тое параўнанне, толькі ўжо ў якасці насмешкі. «Мой ты Гедымін!» – скажа аднойчы жонка мужу з захапленнем, сувымераўшы таго з вялікім князем. З таго часу яго так і пачнуць клікаць. Больш за тое, за ўсім родам замацуецца прыдомак Гедымінавы.

Ужо даўно няма ў жывых чалавека па мянушцы Хап, але захаваліся ў народзе розныя гісторыі пра яго, як і гісторыя пра тое, чаму ён так зваўся. Быццам бы маці, кормячы свайго ўжо не малога сына, вечна ўгаворвала, каб той з'еў больш: «Ну, Ванечка, яшчэ лыжачку – хап! Ну – хап!» Так і празвалі хлопца Хапам тыя, хто за гэтым назіраў.

Іншага крэўскага жыхара яшчэ ў дзяцінстве адарыла мянушкай малодшая сястра. Нібы хвосцік, яна заўжды цягалася за братам, а таму было зусім не даспадобы мець такую дакуку, і ён усімі шляхамі імкнуўся ад яе пазбавіцца.

І вось аднойчы, калі ён са сваімі сябрукамі хаваўся ад сястры недзе ў свірне, дзяўчынцы ўдалося выкрыць брата па яго шапцы з брылём. «А вунь бдыль! – закрычала яна, паказваючы ў яго бок. Скажонае дзіцячымі вуснамі слова «брыль» не толькі выклікала смех у дзяцей, але і прычапілася да ўладальніка той адметнай шапкі ў якасці мянушкі на доўгія гады.

### Пра крэўскіх Леніна, Сталіна і Варашылава

Параўнанні, часам, з іранічным адценнем, назіраюцца ў многіх іншых мянушках. Ленін, Сталін, Варашылаў – так называлі трох братоў, параўноўваючы іх з тагачаснымі палітычнымі ідаламі.

З гэтага ж шэрагу і мянушкі, у аснове якіх – прозвішчы іншых вядомых людзей, герояў кніг, фільмаў: Тарапунька, Бэндар, Талаш, Катоўскі, Пілсудскі, Цыранкевіч, Брэжнеў...

### Мянушку крэўскай дзяўчынцы даў... Іван Мележ

Калі ўсе зачытваліся Мележам і Шамякіным, нарадзілася ў Крэве дзяўчынка. Трэба было выбраць імя. Цётка яе прапанавала назваць пляменніцу Хадоськай, па імені адной з гераінь рамана «Людзі на балоце».

Бацькі, якія, відаць, рамана не чыталі, адкінулі гэтае нязвыклае для нашых мясцін імя і выбралі іншае – Святлана. Аднак да сённяшніх дзён, каб удакладніць, пра якую Святлану ідзе размова, людзі ўжываюць тое адхіленае некалі імя.

### Мела талент маляваць і даваць мянушкі

Варта некалькі слоў сказаць пра тую самую цётку, аматарку рамана «Людзі на балоце». Усе ў Крэве ведалі яе, як Любачку, альбо Сёрыху, хаця сапраўднае імя жанчыны – Аляксандра.

У маладосці яна вылучалася ныдрэннымі мастацкімі здольнасцямі. Так склаліся абставіны, што паступіць вучыцца на мастачку ёй не ўдалося, а самастойна развіваць свае таленты не хапіла сілы волі.

Праўда, нават у сталым узросце, нягледзячы на тое, што пасябравала з зялёным змеем, Любачка вельмі ўдала выконвала сваім дзецям дамашнія заданні па маляванні і даволі прыстойна падпісвала стужачкі да пахавальных вянкоў.

Але наймацней колішнія Любачкіны здольнасці выліліся ў талент надзяляць аднавяскоўцаў мянушкамі. Тут роўных ёй наўрад ці знойдзеш: скажа – як звяжа. І не ў брыво, а ў вока.

### Старшыню калгаса ў Крэве звалі Войтам

Мянушка можа пайсці і ад роду занятку чалавека, яго прафесіі. Працавала жанчына аграномам у калгасе, па прафесіі яе многія і клікалі паміж сабой. Нават калі пайшла на пенсію, Аграномкай так і засталася, а дзяцей таксама часам называюць Аграномчынымі. Ёсць у Крэве і Паштальёнавы.

Жонку капітана далёкага плавання ўсе ведалі як Капітаншу. Старшыню калгаса некалі жартам звалі Войтам – такую назву ў старыя часы меў наглядчык за прыгоннымі сялянамі.

Сямейную пару, якая пражывала калісьці ў цэнтры Крэва, клікалі Партызанам і Партызанкай, бо яны казалі, што ваявалі ў час вайны ў партызанскім атрадзе.

Выхадцаў са стараверскіх сем'яў можна вызначыць па мянушцы Бурлакі ці Бурлаковы. Праўда, так часам называлі і тых, хто ніякага дачынення да гэтага адгалінавання ў праваслаўі не меў, а проста насіў вялікую бараду. Але крэўскія Бурлаковы сапраўды паходзілі са староверскай вёскі Слабада, якая знаходзіцца недалёка ад Крэва.

**Аляксандр КАМІНСКІ,**
**Крэва.**

**Фота забяспечанае аўтарам.**

---

**● КАЛЯНДАР**

**12 КАСТРЫЧНІКА**

**1398.** На востраве Салін (на Нёмане) падпісаная мірная дамова аб дапамозе паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Тэўтонскім ордэнам.

**13 КАСТРЫЧНІКА**

**130 гадоў** з дня нараджэння **Язэпа Драздовіча** (1888 – 1954), беларускага жывапісца, скульптара, графіка, этнографа і археолага, аднаго з заснавальнікаў нацыянальна-гістарычнага жывапісу.

**1928.** 90 гадоў назад ЦВК і СНК БССР прынялі пастанову «Аб рэарганізацыі Інстытута беларускай культуры ў Акадэмію навук Беларусі» (з 1997 г. Нацыянальная акадэмія навук Беларусі).

**15 КАСТРЫЧНІКА**

**1817.** У Салюры (Швейцарыя) памёр **Тадэвуш Касцюшка**, дзяржаўны і вайсковы дзеяч, кіраўнік паўстання 1794 года.

**90 гадоў** з дня нараджэння **Юрыя Смірнова** (1928 – 1997), беларускага спевака, заслужанага артыста Беларусі. У 1958 – 1989 гадах саліст Дзяржаўнага камітэта Беларусі па тэлебачанні і радыёвяшчанні. Выканаў партыі ў операх «Кастусь Каліноўскі» Дз.Лукаса, «У пушчах Палесся» А. Багатырова, «Кветка шчасця» А.Туранкова.

**18 КАСТРЫЧНІКА**

125 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Уладамірскага** (сапр. Малейка) (1893 – 1971), беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі, народнага артыста СССР. Нарадзіўся ў Каўнасе. У 1924 – 1959 гг. працаваў у Беларускім тэатры імя Янкі Купалы. Многія яго сцэнічныя вобразы сталі здабыткамі нацыянальнай культуры. Найбольш ярка адметнасць яго таленту выявілася ў ролях беларускай драматургіі.

**1906.** Нарадзіўся **Алесь Салагуб** (вёска Зарудзічы, цяпер Смаргонскі раён), паэт, публіцыст, вязень Лукішак.

Скончыў Віленскую беларускую гімназію (1927), у 1928 годзе нелегальна перайшоў у БССР, дзе скончыў БДУ (1931). Вучыўся ў аспірантуры Інстытута літаратуры і мастацтва Беларускай акадэміі навук. На трэцім годзе вучобы 10 жніўня 1933 г. арыштаваны савецкімі ўладамі па справе Беларускага нацыянальнага цэнтра і 17 мая 1934 г. расстраляны.

Друкаваўся з 1925 года, у 1929-м у Мінску выйшаў зборнік вершаў «Лукішкі». У 1961 годзе ў часопісе «Полымя» апублікаваны яго «Лукішскі дзённік». Рэабілітаваны 16 жніўня 1956 года.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

ТЭМА НУМАРА

# Мама 10 дзяцей: «Я не разумею, як можна справіцца з адным дзіцем»

МАЛАДЗЕЧНА

**Дзе ў Насілаве жыве сям'я з дзесяццю дзецьмі, пазнаць нескладана. Каля двара стаяць легкавая машыны і «бусік», жоўты двухпавярховы дом і прыбраны двор з дзіцячай пляцоўкай. А ўнутры смачна пахне пірагом, які толькі дасталі з духоўкі.**



Фота забяспечанае Вольгай ШЧУРСКАЙ.

Дзеці, якія прыходзяць у прыёмную сям'ю, амаль адразу называюць Вольгу мамай. Некаторыя пераходзілі на «мама» ў першы ж дзень, некаторым патрабавалася некалькі месяцаў. Усім дзецям неабходная мама, і яны імкнуцца займець яе як мага хутчэй.

Вольга Шчурская – стыльная жанчына са свежым манікюрам. Муж Сяргей працуе ў двары. Малодшыя дзяўчынкі разам гуляюць, старэйшы хлопчык забег паабедаць, астатнія дзеці хутка вернуцца са школы. А яна працуе мамай. Чаму мама – гэта праца, яна расказала для чытачоў «РГ».

### Як сям'я стала працай

Вольга і Сяргей пражылі разам 15 год перад тым, як вырашылі, што гатовы стаць прыёмнымі бацькамі. Яна – галоўны бухгалтар, ён прадпрымальнік. Аднак усё гэта не прыносіла задавальнення.

– Мы жылі для таго, каб зарабляць, а ў душы не заставалася нічога. Пустата, – расказвае Вольга. – Тут жа ў нас кожны дзень вулкан. Такія эмоцыі, што ні з чым не параўнаеш.

Сяргей адразу быў за ідэю стаць бацькамі ў дзіцячым доме. Вольга ж некалькі месяцаў сумнявалася. Многія казалі, што гэта вельмі складана, і адгаворвалі. Але ў рэшце рэшт яна рашылася. У 2015 годзе адбылося ўрачыстае адкрыццё дзіцячага дома сямейнага тыпу. Спачатку прынялі на выхаванне пяцярых дзетак. Пасля двое вярнуліся ў родную сям'ю.

Жанчына расказвае, што ўсё зусім не так, як уяўляла. Гэта можна толькі адчуць на сабе.

### З дзесяццю дзецьмі прасцей, чым з адным

Вольга адзначае, што ў рэальнасці ўсё атрымалася не так страшна, як яна думала. Цяпер у сям'і дзесяць дзяцей, і ўсе яны могуць выконваць свае абавязкі. Толькі малодшай Сонечцы трэба крыху больш дапамогі. Самі апранаюцца, прыбіраюць за сабой, робяць урокі – ад мамы патрабуецца толькі пракантраляваць і дапамагаць.

**Дзеці падзеленыя на тры каманды. Кожная з іх дзяжурыць па чарзе. Адна адказвае за прыборку кухні, другая мые падлогу, а трэцяя адпачывае. І мяняюцца адзін за адным. Дзеткі выдатна ведаюць, хто што павінны рабіць. І калі хтосьці лянуецца, іншыя яго заахвочваюць.**

– Дзецям неабходная дысцыпліна, – упэўненая Вольга, – яны павінны разумець, што ёсць правілы. Гэта дае адчуванне рамак і ўпэўненасці. І калі ў сям'ю прыходзіць новае дзіця, яно таксама пачынае жыць па агульных правілах.

Таму Вольга і кажа – некаторыя знаёмыя ледзь спраўляюцца з адным дзіцем, таму што ўсё робяць за яго – і ўрокі разам, і адзенне рыхтуюць, і ўсё прыбіраюць самі, а дзіцяці ніякіх абавязкаў не даюць. Так і атрымліваецца, што з дзесяццю прасцей, чым з адным.

– Напрыклад, для супу яны ўсё падрыхтуюць, нарэжуць, а мне толькі кантраляваць і варыць.

### Кожны з іх унікальны

Цяпер у сям'і дзесяць дзяцей, восем з іх – прыёмныя. Вольга разважае пра кожнага з іх, каб вылучыць адметнасць.

Ангеліна вучыцца ў дзясятым класе, ёй 15 год. Дзяўчынка марыць паступіць у медыцынскі каледж. Гэта правая рука мамы, дапамагае арганізаваць усю працу дома.

14-гадовая Насця і 13-гадовы Слава – родныя сястра і брат. Яны маюць асаблівасць у развіцці. Дзяўчынка вельмі спакойная, ёй моцна падабаецца займацца агародам, марыць даглядаць кветкі. Слава таксама любіць займацца ў агародзе, а таксама майстраваць розныя вырабы, напрыклад, з дрэва.

Сашы 14 год, ён кожны дзень ходзіць на трэніроўкі па футболе. Вельмі адкрыты і шчыры хлопчык, з якім заўсёды прыемна размаўляць.

Жэні 13 год. Ён заўсёды гатовы дапамагчы зрабіць працу па доме. Калі хтосьці можа паленавацца, то толькі не ён. Аднойчы Жэня ўбачыў карцінку прыгожага нажа. Намаляваў яго, а пасля вытачыў з дрэва – выраб быў нібы з карцінкі.

Лізе дзесяць год, і яна круглая выдатніца. Дзяўчынка першая ва ўсім, за што бярэцца. Іграе на скрыпцы, выступае з хорам, актывістка. Вельмі любіць вучыцца, дзённік заўсёды ідэальны. А вось дапамагаць па доме не вельмі імкнецца.

Данілу дзевяць, ён родны брат Лізы. Па выніках тэставання сярод вучняў малодшых класаў ён паказаў найвышэйшы вынік па каэфіцыенце інтэлектуальнага развіцця. Любіць займацца спортам.

Пашы дзевяць год. Ён ахвотна бярэцца за ўсе справы, але яму складана займацца адной справай доўгі час. Вельмі добра іграе на акардэоне і баяне.

Віцы восем год. Яна іграе на дудачцы. Сама навучылася садзіцца на шпагат. Вельмі актыўная і пластычная.

Соні два гады. Цікавіцца ўсім, што і дзеткі такога ўзросту. Але вызначыць нешта адно пакуль рана.

Усе школьнікі сям'і ходзяць у лебедзеўскую школу, многія наведваюць музычную.

– На школьныя канцэрты стараюся хадзіць. Уявіце, спявае хор – і амаль усе там мае дзеці.

### Мама – гэта не быт

Летам Вольга прачынаецца ў пяць раніцы, зімой разам з дзецьмі ў сем. Школьнікі самі вараць сабе кашу на сняданак. Яна лічыць гэта вельмі важным. Бяда дзяцей, якія растуць у інтэрнаце, у тым, што не могуць мінімальна абслужыць сябе. Яны не ведаюць, як прыбірацца, зварыць есці. У прыёмнай жа сям'і яны вучацца і гэтым рэчам.

– Канешне, трэба круціцца і паспяваць і есці прыгатаваць, і прыбраць часам. Але ўсё гэта проста быт. Не ў гэтым праца мамы. Самае складанае – зразумець дзіця, знайсці з ім кантакт і дапамагчы раскрыць сябе. Вось у чым задача нас, мам.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# «Спазніліся на дзесяць хвілін»

## Чаму маладзечанскі «Камунальнік» адразу ўсыпляе жывёл

МАЛАДЗЕЧНА

**Гэту гісторыю мы ўбачылі ў суполцы «Укантакце». 19 верасня там апублікавалі аб'яву пра зніклага сабаку. Гаспадары знайшліся хутка, але доўга радавацца ім не давялося. У гэты ж дзень Грэту ўсыпілі работнікі «Камунальніка».**

**Грэта** збегла з дому 12 верасня. Ёй было прыкладна два гады.

Пост у суполцы з'явіўся праз тыдзень.

**«У двары дома №14 па вуліцы Прытыцкага ўжо два дні бегае сабака. Дагледжаны, з ашыйнікам, чорна-карычневы, высокі, актыўны, кідаецца да мінакоў, але дружалюбны. Напэўна, шукае гаспадара, вельмі разгублены і занепакоены. Забярыце свайго сабаку!».**

Ад дома гаспадыні Грэты **Кацярыны Каўравай** да месца, дзе знайшлі сабаку, – пяць кіламетраў.

– Як Грэта трапіла ў горад – не ведаю. Можа, нехта мэтанакіравана паклікаў. Але брамка была зачыненая.

Дом Кацярыны падзелены на дзве часткі. Акрамя яе сям'і, там жывуць суседзі. Ля дома – хлеў. За ім і жылі сабакі – Грэта і Марыша.

### Сабака збягаў, але заўжды вяртаўся

Сабака збягаў і раней, калі сям'і Кацярыны дома не было. Ніхто і ніколі не бачыў, як Грэта зрываецца з ланцуга.

– Карабін, да якога чапляецца ашыйнік, дарослы чалавек з цяжкасцю можа адчапіць, – кажа гаспадыня. – Сабака збягаў, бо карабін быў нямоцны, потым набылі новы. У апошні час ніякіх недарэчнасцяў не было.

Пасля «пабегаў» сабака ці сам вяртаўся дадому, ці бегаў на суседняй вуліцы. Таму аб'яву пра знікненне вырашылі не падаваць. Бацька Кацярыны **Сяргей** неаднаразова шукаў Грэту па бліжэйшых вуліцах. Гаспадыня з сябрамі абышла ўвесь раён.

– Каля двух гадоў таму Грэта прыблілася да нас на вуліцы, дабегла да самага дома. Вярнулі яе на тое месца, дзе знайшлі. Але праз дзве-тры гадзіны Грэта прыбегла да нас. Вырашылі, што будзе жыць з намі.

### Шакаваў адказ у каментарах

Пра тое, што сабаку знайшлі, Кацярына даведалася ад сястры. У той момант яна была ў дарозе, таму патэлефанавала бацькам, каб забралі Грэту. Напісала ў каментары пад пастом «Дзякуй за сабаку, уже едзем забіраць. Доўга не маглі знайсці». Адказ шакаваў дзяўчыну: «Кацярына, позна, яе ўжо забралі і ўсыпілі. Мне вельмі шкада».

– Мы спазніліся літаральна на дзесяць хвілін.

Жанчына, якая скінула пост, сказала, што не ведае, хто і куды забраў сабаку. Што пра ўсыпленне ёй паведамілі людзі, якія бачылі, як забіралі Грэту.

### Чаму Грэту адразу ўсыпілі

Стрыечная сястра Кацярыны **Ганна Лосік** тэлефанавала ў «Камунальнік». Там спасылаліся на тое, што сабака быў галодны, падбягаў да людзей, быў небяспечны, таму і забралі. Па словах Кацярыны, Грэта сапраўды мела гуллівы характар. Яна магла падбегчы да чалавека, але агрэсіўнай не была, не кусалася, не нападала.

– Сабаку забралі, бо нехта патэлефанаваў і сказаў, што жывёла дзіўна сябе паводзіць. Лічу, Грэта спрабавала знайсці па паху гаспадара, – расказвае Ганна. – Дрэнна, што ў Маладзечне няма вальераў для часовага ўтрымання. Падаткі плацім, можна было б пару клетак зрабіць.

На шаленства Грэту не правяралі. Усыпілі сабаку адразу, бо трымаць жывёл наўпрост няма дзе. Як Грэта трапіла ў «Камунальнік», не сказалі.

### Шалёнай Грэта не выглядала

Каб разабрацца ў сітуацыі, мы звярнуліся да ветэрынарнага фельчара спецаўтагаспадаркі УП «Камунальнік» **Анатоля Барановіча**.

– Пра сабаку паведаміла жыхарка дома па Прытыцкага. Тэлефанавала не адзін раз. Раілі жанчыне пачакаць, можа, гаспадары знойдуцца, – распавядае фельчар. – Яна спрабавала іх знайсці, выклала аб'яву ў сацыяльныя сеткі, быццам бы яшчэ ў газету, не памятаю. Ніхто не адгукнуўся. Тэлефануе і кажа, забярыце, лезе ў дом. Што рабіць? Вырашылі ўсыпіць, пакуль сабака нікога не пакусаў.

Па словах Анатоля, знешне Грэта шалёнай не выглядала. Згодна з «Правіламі ўтрымання дамашніх сабак, катоў, а таксама адлову безгаспадарных жывёл у населеных пунктах Рэспублікі Беларусь», нават калі жывёла мае ашыйнік ці павадок, але знаходзіцца на вуліцы адна, яе прызнаюць бадзяжнай.

### Чаму Грэту не вярнулі гаспадыні

Ператрымкі для жывёл у «Камунальніку» няма. Калі брыгада выязджае на месца выкліку, шанцы выжыць у катоў і сабак знікаюць.

– Стараемся, каб пабач было як мага менш людзей.

Мёртвых жывёл адвозяць у ямы Бекары – біятэрмічныя ямы, у якія загружаюць трупы. Для абеззаражвання іх засыпаюць каўстычнай содай. Таму Грэту гаспадыні не вярнулі.

Бадзяжных жывёл усыпляюць, бо яны з'яўляюцца крыніцамі многіх хвароб, разносяць мікробы.

Дарэчы, на старонцы **А. К.** – так падпісаная «Укантакце» жанчына, якая даслала пост, – няма ні фота, ні асабістых запісаў. Мы спрабавалі з ёй звязацца, каб высветліць падрабязнасці гісторыі.

– Здаецца, праз дзесяць хвілін пасля таго, як сабаку ўсыпілі, нам тэлефанавала жанчына, сказала, што гаспадары знайшліся. Нумар супадаў з тэлефонам маладзечанкі, якая прасіла забраць сабаку.



Фота забяспечанае сястрой Кацярыны Таццянай ШАБАН.

Калі брыгада выязджае на месца выкліку, шанцы выжыць у катоў і сабак знікаюць. На фота Грэта

### На адстрэл грошы ёсць, на прытулак – няма

Па каментар мы звярнуліся да дырэктара цэнтра па ахове жывёл «Анімалекс» **Настассі Жаўрыд**.

– Па законе, любы бадзяжны сабака, добры ці злы, падлягае адлову. Калі няма пункта часовага ўтрымання – усыпленню. Вялікае пытанне, чаму гаспадар не можа прэтэндаваць на тое, што гадаванец да яго вернецца. Тут яшчэ залежыць ад уладальніка жывёлы. Трэба рабіць пісьмовы запыт, разбірацца, збіраць ініцыятыўную групу, каб такога не паўтарылася. Калі заплюшчыць вочы на гэту сітуацыю – так і будуць забіваць.

Падобныя выпадкі былі ў Вілейцы, Смаргоні і Ашмянах.

**Цэнтр «Анімалекс» выступае супраць адстрэлу сабак. Працуе ў галіне змены заканадаўства наконт бадзяжных жывёл. Мае зносіны з мясцовымі ўладамі і зоаабаронцамі.**

– Трэба змяніць правілы адлову і зрабіць пункты часовага ўтрымання ў горадзе. Звычайна нам адказваюць «няма сродкаў», але гэта няпраўда або не ўся праўда. Няма сродкаў – прыцягвайце валанцёраў, якія ёсць у кожным горадзе. На адстрэл грошы ёсць, а на пункт часовага ўтрымання – няма.

**Таццяна КАСЬЯН.**

● ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

## «Смаргонь» прайграла мінчанам

СМАРГОНЬ

25-ы тур «Мядзведзі» разыгралі ў гасцях у мінскай каманды «Энергетык-БДУ».

Гульня скончылася з лікам 3:0 на карысць гаспадароў. «Смаргонь» не змяніла дзясятую пазіцыю ў турнірнай табліцы. Сапернік жа замацаваўся на лідзіруючым першым радку лігі.

У суполцы ФК «Смаргонь» у абмеркаванні матча прагучала думка аб перспектывах сезона ад **Вадзіма Ермака**: «Ніжэй за 13-е не ўпадзём, вышэй за восьмае не падымемся».

## «Чысць» зноў разбілі

МАЛАДЗЕЧНА

На гульні 6 кастрычніка каманда «Чысць» выступіла на выездзе ў Бабруйску.

Гаспадар «Белшыны» забіў пяць мячоў у вароты саперніка. Госці адказаць не змаглі.

Пасля 25-а тура «Чысць» застаецца на апошнім, 15-м, радку турнірнай табліцы.

| | Каманды | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Энергетик-БГУ (Минск) | 24 | 18 | 4 | 2 | 55-17 | **58** |
| 2 | Славия (Мозырь) | 23 | 16 | 7 | 0 | 51-10 | **55** |
| 3 | Белшина (Бобруйск) | 23 | 16 | 4 | 3 | 51-16 | **52** |
| 4 | Лида | 23 | 13 | 4 | 6 | 31-14 | **43** |
| 5 | Нафтан (Новополоцк) | 23 | 9 | 8 | 6 | 25-18 | **35** |
| 6 | Гранит (Микашевичи) | 24 | 8 | 10 | 6 | 27-27 | **34** |
| 7 | Локомотив (Гомель) | 23 | 7 | 9 | 7 | 33-23 | **30** |
| 8 | Слоним-2017 | 23 | 8 | 6 | 9 | 33-31 | **30** |
| 9 | Химик (Светлогорск) | 23 | 7 | 5 | 11 | 25-31 | **26** |
| 10 | Сморгонь | 23 | 6 | 8 | 9 | 17-37 | **26** |
| 11 | ЮАС (Житковичи) | 23 | 5 | 9 | 9 | 19-28 | **24** |
| 12 | Орша | 24 | 6 | 3 | 15 | 25-42 | **21** |
| 13 | Волна (Пинск) | 24 | 4 | 7 | 13 | 19-45 | **19** |
| 14 | Барановичи | 23 | 2 | 7 | 14 | 11-30 | **13** |
| 15 | Чисть | 24 | 1 | 7 | 16 | 26-79 | **10** |

Ілюстрацыя football.by.

Турнірная табліца першай лігі.

● ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

## «Маладзечна» выйграла ў «Івацэвічаў»

МАЛАДЗЕЧНА

Выязны матч 6 кастрычніка скончыўся з лікам 2:3.

З боку гасцей забілі галы маладзечанцы **Арцём Ганчарык** на 56-й хвіліне. **Мікіта Дудо** стаў аўтарам галявога дубля. Каманда займае дзясяты радок турнірнай табліцы.

13 кастрычніка «Маладзечна» згуляе на дамашнім стадыёне з «Ашмянамі». Гэта апошняя дамашняя гульня ў гэтым сезоне.

## «Ашмяны» абыгралі «Клецк»

АШМЯНЫ

Розыгрыш 25-а тура скончыўся з лікам 3:2.

З боку ашмянцаў галы забілі **Дзмітры Купнеўскі**, **Ілья Цюніс** і **Аляксей Скварчэўскі**.

Каманда займае трэці радок турнірнай табліцы.

| | Команды | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Рух (Брест) | 23 | 19 | 3 | 1 | 72-13 | **60** |
| 2 | НФК Крумкачы (Минск) | 23 | 19 | 2 | 2 | 68-12 | **59** |
| 3 | Ошмяны-БГУФК | 23 | 16 | 1 | 6 | 65-28 | **49** |
| 4 | Спутник (Речица) | 24 | 15 | 3 | 6 | 61-19 | **48** |
| 5 | Осиповичи | 24 | 11 | 5 | 8 | 47-32 | **38** |
| 6 | Виктория (Марьина Горка) | 24 | 10 | 3 | 11 | 32-41 | **33** |
| 7 | Узда | 22 | 10 | 3 | 9 | 46-41 | **33** |
| 8 | Ивацевичи | 23 | 9 | 5 | 9 | 35-35 | **32** |
| 9 | СМИавтотранс (Смолевичский р-он) | 23 | 8 | 3 | 12 | 22-45 | **27** |
| 10 | Молодечно | 24 | 6 | 6 | 12 | 38-53 | **24** |
| 11 | Клецк | 23 | 6 | 4 | 13 | 28-52 | **22** |
| 12 | Энергетик-БГАТУ (Минск) | 22 | 5 | 4 | 13 | 27-47 | **19** |
| 13 | Неман-Агро (Столбцы) | 23 | 5 | 4 | 14 | 25-76 | **19** |
| 14 | Горки | 23 | 4 | 6 | 13 | 33-59 | **18** |
| 15 | Бумпром (Гомель) | 20 | 2 | 2 | 16 | 14-60 | **8** |

Ілюстрацыя football.by.

Турнірная табліца другой лігі.

## Правядуць Кубак Беларусі па суднамадэльным спорце

МАЛАДЗЕЧНА

Спаборніцтвы запланавалі на тры дні – 27-29 кастрычніка. Правядуць іх у «Маладзіку» па адрасе: Маладзечна, Машэрава, 3.

**Праграма:**

**27 кастрычніка**

15:00. Адкрыццё

16:00. Стэндавая ацэнка мадэляў

**28 кастрычніка**

9:00-10:00 – хадавыя спаборніцтвы ў басейне санаторнай школы-інтэрната.

Урачыстае закрыццё спаборніцтваў правядуць 29 кастрычніка.

**Аддзел інфармацыі.**



Навучэнцы маладзечанскай школы-інтэрната №2 разам з талісманам ХК «Дынама-Маладзечна».

# Аднойчы на хакеі Зубр зламаў парэнчы

## Як працуе талісман маладзечанскіх хакеістаў на матчах

МАЛАДЗЕЧНА

**– Зубр, зубр, – крычаць дзеці і тузаюць маскота за рогі.**

Канцэрт, прымеркаваны да Дня настаўніка, 4 кастрычніка зладзілі ў школе-інтэрнаце №2 для дзяцей з парушэннямі зроку.

Для настаўнікаў вучні падрыхтавалі песенныя нумары. Для саміх школьнікаў пасля канцэрта правялі флэшмоб з удзелам **Зубра** – талісмана хакейнага клуба «Дынама-Маладзечна».

### Выступалі нават бацькі

Песню «Мы любім вас» на канцэрце выканаў **Данііл Савеня**. Два гады таму яго абралі пераможцам конкурсу «Асоба года» ў намінацыі «Натхненне года-2016» па выбары рэдакцыі «РГ».

З кампазіцыяй «За сінімі туманамі» выступіла **Ірына Крыўко**, маці дзевяцікласніцы **Дар'і**.

У фінале прагучала «Песня міру», якую выканалі ўсе, хто выступаў раней.

**Пасля канцэрта правялі школьны рытмічны флэшмоб з удзелам талісмана ХК «Дынама-Маладзечна». У ім паўдзельнічалі і выканаўцы, і гледачы.**



Падчас флэшмобу Зубр танцаваў з вучнямі.

Мы пагутарылі з Зубром, якога вучні падчас флэшмобу паспелі добра патузаць за рогі.

### Зваліўся на вачах усёй арэны

Пакуль у хакеістаў «раскатка» перад матчам, зубр працуе ў холе. Ці выходзіць на вуліцу, запрашае на матч.

Асноўная задача маскота – забаўляць заўзятараў. А яшчэ ён «падсілкоўвае» арэну. Гэта «энергетычны камяк», які ходзіць ля арэны і дзеліцца з людзьмі весялосцю, радасцю, сваёй энергіяй. Заводзіць гледачоў, каб яны заўзелі, падштурхоўвае пакрычаць, папляскаць у далоні, падтрымаць фанатаў.

Пры гэтым ён павінны заўжды рухацца.

У мінулым сезоне ля сцэны, дзе танцуюць дзяўчынкі, Зубр крочыў міма і зламаў парэнчы. Зваліўся на вачах усёй арэны. Гледачы пасмяяліся, а Зубр зрабіў выгляд, што так і трэба.

– Вядома, недарэчнасці здараюцца. Недзе чаравік можа зачапіцца за крэсла, за прыступку. Натуральна, падаеш, падстаўляеш рукі. Робіш выгляд, што так і трэба, пераводзіш на жарт, у прыкол. Стаіш і лаеш прыступку, – смяецца Зубр. – Талісман у большай ступені працуе для дзяцей. Для большасці з іх патузаць Зубра за рог – шчасце. Быццам дзяўчынку за коску.

### «Зубрыхі» ў Зубра няма

А вось традыцый перад матчам у яго амаль няма. Можа, прыдумаем разам?

– У папярэдніх сезонах на хакей прыходзіў мужчына, які іграў на трубе. Мы з ім не віталіся – не адбівалі адзін аднаму кулак. Бо заўважылі тэндэнцыю, што тады «Дынама-Маладзечна» прайграе. Увогуле, Зубр сам талісман, яму талісманы не трэба.

**Самае частае пытанне да маскота ад дзяўчынак – ці ёсць у яго «Зубрыха». Пакуль няма, прызнаецца талісман. Затое ў Зубра ёсць сабака.**

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота забяспечанае прэс-службай ХК «Дынама-Маладзечна».**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Спадзявацца, разлічваць на што-небудзь.
2. Рэгістрацыя асоб, прадметаў з занясеннем іх у спісы.
4. Уважлівы, спагадлівы; добразычлівы.
7. Жалезны кручок з ручкай для падымання і пераносу патэльні.
9. Выцяжка з расліннага або жывёльнага рэчыва, змешчанага ў ваду або іншую вадкасць.
10. Сканцэнтраванасць думак, зроку, слыху, накіраванасць думак.
12. Маленькая, нязначная прычына.
15. Атрыманая зусім нядаўна вестка.
18. Пень, вывернуты з зямлі з карэннем.
20. Збітая фраза.
21. Тулава чалавека або жывёлы.
24. Самым кароткім шляхам; наўпрост.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Малюнак, у якім спалучаюцца ў поўным парадку лініі, колеры, фігуры.
3. Менавіта яна стварае гук, калі патрэсці тэнісны мячык.
4. Невялікая бутэлька гарэлкі.
5. Афарбоўка.
6. Палачка, якой паказваюць.
8. Яны станавіліся дарослымі ў 16 год.
10. Прымяненне, выкарыстанне ў штодзённым жыцці.
11. Вадкасць, насычаная рэчывамі тых прадуктаў, што ў ёй варацца.
13. Тут здабываюць чвэрць усіх алмазаў у свеце.
14. Уменне, якое склалася ў выніку досведу, практыкаванняў.
16. Для рыб ён страшней за маланку.
17. Менавіта гэта пабудова – помнік інжынернай думцы. Размешчаны на поўначы Лівіі.
19. Максім Багдановіч: «Дзесь у хмарах жывуць ..., Што снуюць павучыну дажджа. Кожны тлусты і мяккі такі, Скура слізкая, як у вужа».
21. Службовая асоба дыпламатычнага ведамства, якая прадстаўляе і абараняе прававыя і эканамічныя інтарэсы сваёй дзяржавы і яе грамадзян перад уладай другой дзяржавы.
22. Высокая травяністая расліна сямейства асаковых, якая расце ў вадзе рэк, азёр, на балотах.
23. Зрабіць цёплым.

## Адказы на крыжаванку з №40

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Афера. 4. Інтуіцыя. 9. Лаянка. 10. Апельсін. 12. Лесавік. 13. Ладдзя. 14. Глеба. 17. Знахар. 19. Бяроза. 23. Прамова. 24. Урал. 27. Зона.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Паволі. 3. Паданне. 5. Пагоня. 6. Здольны. 7. Павага. 8. Лівень. 11. Зрок. 15. Ідэал. 16. Вінаград. 17. Знямога. 18. Скрыпачка. 20. Жырафа. 21. Асоба. 22. Мухавец. 25. Шмалец. 26. Агонь. 28. Лаванда.

## Мінскі абласны тэатр лялек «Батлейка». Рэпертуар на кастрычнік

**«ШМАТОЧКІ ПА ЗАКУТОЧКАХ»**
(жыццёвая гісторыя, рус.),
Р.Осцер
**14 кастрычніка – у 12:00**

**«КОТ У БОТАХ»**
(казка-прыгода, рус.),
Г.Уладычына
**21 кастрычніка – у 12:00**

**«МАША І МЯДЗВЕДЗЬ»**
(народная казка, бел.),
В.Швэмбергер
**28 кастрычніка – у 12:00**

**ПРЭМ'ЕРА ДЛЯ ДАРОСЛЫХ**
**«СЁСТРЫ ГРАІ»** 18+
(міфы старажытнай Грэцыі)
**19 кастрычніка – у 19:00**

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, па адрасе:
**г.Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.**
Тэл. (80176) **74-62-19, 50-56-96, 74-63-79.**
УНП 600136804




## ГАРАСКОП 12-18 КАСТРЫЧНІКА

**АВЕН.** Цяпер спадзявайцеся не на лёс, а на самога сябе. Усё ў вашых руках. І калі прыкласці намаганне над сабой, не кідаць пачатае на паўдарозе, то вы зможаце дасягнуць добрых вынікаў і будзеце на вышыні.

**ЦЯЛЕЦ.** Адкуль такое расчараванне ў сабе і блізкіх, дэпрэсія, заняпад жыццёвых сіл?! Менавіта негатыўны настрой пазбавіць вас магчымасці ўбачыць радасці ў жыцці, вы рызыкуеце спудзіць новыя пачуцці або папросту не заўважыць іх набліжэння. Настройвайце сябе на мажорны лад.

**БЛІЗНЯТЫ.** Вы раптам сталі ўспрымаць свет у цёмных фарбах. Сапраўды, у вашым жыцці ўсё не зусім гладка, і ў эмацыйным, і ў матэрыяльным плане, многія падзеі працякаюць не так, як вам таго б хацелася. Але калі ўважліва прыгледзецца, то можна ўбачыць і станоўчыя моманты, якія адбываюцца з вамі, проста не паварочвайцеся да іх спінай.

**РАК.** Падзеі гэтых дзён могуць сур'ёзна паўплываць на ваша жыццё, на многія яго сферы і па-рознаму праявіцца ў будучыні. Цяпер паводзьце сябе некалькі інфантыльна, захоўвайце лёгкасць. Пасля займіце пазіцыю чакання.

**ЛЕЎ.** Дні будуць насычаныя радаснымі і яркімі падзеямі, добры час для кампаній, сустрэч з сябрамі і правядзення святаў. Толькі не станьце ахвярай махляроў, а то вы залішне даверлівыя.

**ДЗЕВА.** Час, калі вы зможаце атрымаць асалоду ад вынікаў сваёй працы і пачаць новую дзейнасць, спрыяльную для бізнесменаў і людзей, якія ніколі не спыняюцца на дасягнутым.

**ШАЛІ.** Не турбуйцеся з-за цяжкасцяў і некаторых канфліктаў. Не бярыце ў галаву негатыў, не пускайце ў сябе благія думкі, стаўцеся да ўсяго з лёгкасцю, тады і праблемы не будуць выглядаць такімі сур'ёзнымі.

**СКАРПІЁН.** У вас ёсць добрая магчымасць пачаць новую дзейнасць і закласці асновы для будучага росту. Толькі не лянуйцеся. Адпачывайце ад мітуслівых спраў вы зможаце трошкі пазней, тады ж з'явіцца магчымасць атрымаць прыбытак або ўзнагароджанне.

**СТРАЛЕЦ.** Цяпер вам варта падумаць пра свае далейшыя планы на жыццё і магчыма распачаць нейкія дзеянні для іх рэалізацыі.

**КАЗЯРОГ.** Вам цяпер не будзе калі расслабіцца і прысесці, а ўжо тым больш аддавацца сумным думкам. Цяпер той час, калі вы павінны праявіць сябе з самага актыўнага і ўладнага боку, час сур'ёзных рашэнняў і бурнай дзейнасці. Вынікі праявяць сябе не адразу, але неабходныя асновы будуць закладзеныя.

**ВАДАЛЕЙ.** Перыяд дзейнасці і новых пачынанняў, за выключэннем таго, што вы будзеце знаходзіцца ў нерашучасці. У вас заўсёды было больш за адну думку па любой нагодзе, але што зрабілася цяпер. Калі што – прасіце дапамогі ў надзейных сяброў.

**РЫБЫ.** Нялёгка ісці ў разрэз з усім светам, яшчэ цяжэй ісці ў разрэз з самім сабой, але ў вас гэта часам атрымоўваецца. Вашы імкненні, жаданні нешта рабіць будуць ісці ў разрэз з тым, чаго вы хочаце дасягнуць і што трэба рабіць. Нялёгкі выбар. Але прымайце рашэнні і не чакайце крытычнай сітуацыі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 4 | | 7 | 9 | | | | 8 |
| | 3 | | | | 4 | | 9 | |
| | | | | 3 | 1 | 4 | 2 | |
| | | | | | 8 | | 5 | 7 |
| | 5 | | 1 | | | | | 3 |
| | 7 | 1 | | | | | 6 | 9 |
| 5 | | | | 6 | | | | 2 |
| | | 9 | 2 | 8 | | | | |
| 4 | | | | | | | 8 | 6 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017


● НАДВОР'Е

## 13 кастрычніка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +8 | | +9 | | +7 | | +5 | |
| | +7 | | +11 | | +14 | | +16 | |
| | 754 | ↑ 3 | 753 | ↗ 4 | 750 | ↗ 2 | 749 | ↗ 2 |
| Вільня | +8 | | +7 | | +7 | | +6 | |
| | +16 | | +15 | | +18 | | +18 | |
| | 758 | ↖ 4 | 758 | ↖ 3 | 756 | ↖ 5 | 755 | ↖ 3 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 7.37
Захад 18.20
Даўжыня дня 10.53

Усход 12.26
Захад 20.47
Квадра 3




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература -4,4°С у 1992 годзе
Максімальная тэмпература +18,4°С у 1979 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 10,7 мм у 1985 годзе
Паводле meteoinfo.by.

## Чытайце праз тыдзень

● Нядаўна каманда студэнтаў-медыкаў з Гродзенскага медуніверсітэта вярнулася з III Усерасійскай універсіяды па хірургіі з ганаровым трэцім месцам. У наступным нумары ўдзельнік універсіяды Дзмітры Мікуцкі з Ілы раскажа пра тое, як будучыя дактары вязалі хірургічныя вузлы, накладалі швы на сухажыллі і аперыравалі страўнік.



## Запрашаем далучыцца да акцыі «Супергаспадар»

**Вы сабралі самы вялікі ўраджай? Або пабудавалі ўнукам арэлі? Вышылі абрус або ўмееце пячы самыя смачныя ў свеце піражкі?**

Дасылайце на нашу пошту regionnews@rh.by лепшыя фотаздымкі, звязаныя з гаспадаркай.

Каб стаць пераможцам акцыі, неабходна даслаць адно фота ад аднаго чалавека.

Мы размесцім іх для галасавання на сайце rh.by, і той, хто назбірае найбольшую колькасць галасоў, атрымае падарунак.

Тым, хто зойме другое і трэцяе месцы, мы падрыхтавалі падарункі.

Дасылаць здымкі могуць нашы чытачы ад да 19 лістапада. Пасля мы размесцім на нашым сайце rh.by галасаванне, якое будзе доўжыцца ад 22 лістапада да 13 снежня. А 14 снежня мы абвесцім вынікі акцыі.

У лісце пазначце сваё імя, прозвішча, населены пункт, нумар тэлефона і некалькі сказаў пра сваё фота і сябе. Фотаздымкі, дасланыя без апісання, да ўдзелу дапускацца не будуць. У тэме ліста абавязкова пазначце «Супергаспадар».

Большасць з дасланых фотаздымкаў мы размесцім і ў папяровай версіі газеты.

**Аддзел інфармацыі.**

● ПРОСТА АНЕКДОТ

Дыета. Спачатку тры дні ясі адны гароднінныя салаты, потым чатыры дні сядзіш на адным кефіры, затым пяць дзён п'еш адзін травяны чай, потым сем дзён п'еш толькі ваду... Потым дзевяць дзён... Потым сорак дзён...




Ілюстрацыя забяспечана Маладзечанскім ГРАНС.

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

## Якую дамашнюю жывёлу вы ніколі б не завялі і чаму?



**Алеся Вяршыцкая, бухгалтар, Маладзечна:**
– Дэкаратыўнага пацука не хачу, таму што яны брыдкія і ўтрымліваюць спецыфічны пах. І можа, нават папугая, бо чырыканне частае. У мяне дома ёсць кошка Мілка і рыбка пеўнік Марык.



**Кацярына Вайтовіч, інжынер вытворча-тэхнічнага аддзела, Маладзечна:**
– Я ніколі б не пагадзілася на павука, калі яго можна назваць дамашняй жывёлай. Баюся іх. Цяпер у мяне жыве кот Сяма, якога злавіла ў падвале за хвост. Ніхто не верыць, што нарадзіўся ў падвале і быў бяздомны. Вельмі ён прыгожы.



**Арыяна Місевіч, школьніца, Маладзечна:**
– Не пагадзілася бы на жукоў, павукоў, некаторых іншых насякомых. Мае гадаванцы – бенгальская кошка Беатрыса, шатландскі аблавухі кот Шэй-Хан, два хвалістыя папугаі і рыбкі.



**Валеры Нехвядовіч, камплектоўшчык, Валожын:**
– Не пагадзіўся бы завесці марскую свінку, пацука ці хамяка. А цяпер дома жыве кошка Мося.



**Кацярына Шыдлоўская, працуе ў ветэрынарнай аптэцы, Маладзечна:**
– Ніколі б не завяла рэптылій, паўзуноў, не ляжыць да іх душа. У мяне ёсць нямецкая аўчарка Лайза, ёй амаль дзесяць гадоў. Вялікая разумніца, нягледзячы на тое, што ад яе адмовіўся былы гаспадар. Шмат разоў удзельнічалі з ёй у спартыўных спаборніцтвах.



**Таццяна Матус, фатограф, Валожын:**
– Чарапаху, бо яны павольныя і сэнсу ад іх дома не бачу. Цяпер жывуць два каты і сабака.



**Ангеліна Ганчарова, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**
– Ніколі не завяла б дома змяю. Лічу, што яны не могуць знаходзіцца побач з чалавекам з-за сваёй небяспекі. У нас у сям'і жыве кошка Міні. І акварыумныя рыбкі, але Мінюша іх не чапае.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**


Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№40 (1223) 5.10.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 916. Падпісана ў друк у 9.00 11.10.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.